# СМІ ў Беларусі 2003

Мінск, красавік 2004

## ЗМЕСТ

# Статыстычная даведка

Паводле афіцыйнай статыстыкі, на 1 лістапада 2003 г. у Беларусі былі зарэгістраваныя 1 492 друкаваныя перыядычныя выданні. З іх 902 газеты, 520 часопісаў, 57 бюлетэняў, 3 каталогі, 2 альманахі і 8 інфармацыйных агенцтваў[1]. Большасць зарэгістраваных СМІ маюць прыватную форму ўласнасці.

Даследаванне рынку інфармацыйных СМІ, праведзенае ў жніўні 2003 г. службай маніторынгу ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, выявіла, што ў ліпені—жніўні рэальна выходзілі ўсяго каля 250 навінных газет. Прыкладна 80 з іх належалі прыватным асобам і інстытуцыям, а ў склад заснавальнікаў 150 ўваходзілі органы заканадаўчай і/або выканаўчай улады розных узроўняў.

На 1 лістапада 2003 г. былі зарэгістраваныя 182 радыё- і тэлепраграмы, з іх 120 — дзяржаўныя[2].

Ліцэнзіі Міністэрства сувязі на дзейнасць у галіне кабельнай тэлетрансляцыі мелі 93 арганізацыі[3].

# Змены ў заканадаўстве

Нарматыўныя прававыя акты ў інфармацыйнай сферы, якія з’явіліся цягам 2003 г., умацоўвалі ранейшую агульную тэндэнцыю да ўшчыльнення кантролю ўладаў над вытворчасцю і распаўсюдам інфармацыі, а таксама да далейшага абмежавання доступу грамадзянаў да непадкантрольных крыніц інфармацыі. Паводле сваёй накіраванасці гэтыя прававыя акты можна падзяліць на дзве групы: 1) рэгуляванне дзейнасці медыяў як суб’ектаў інфармацыйнага поля; 2) рэгуляванне доступу да інфармацыі.

Законапраект аб СМІ, унесены ў парадак веснавой 2003 г. сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, да канца года так і не трапіў на разгляд парламенту.

### 1. Прававое рэгуляванне дзейнасці медыяў

*15 студзеня* апублікавана пастанова Савету Міністраў “Аб электронных і сеткавых сродках масавай інфармацыі”[4]. Савет Міністраў надаў Міністэрству інфармацыі права прадастаўляць сродкам масавай інфармацыі тэле- і радыёчастоты, а таксама абавязаў міністэрства правесці перарэгістрацыю ліцэнзій на права займацца трансляцыяй тэле- і радыёпраграм.

[1] http://mininform.gov.by/data/main/massmedia/publishing/stats

[2] http://mininform.gov.by/data/main/massmedia/digital/stat

[3] http://mininform.gov.by/data/main/massmedia/digital

[4] Пастанова Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь №1826 ад 30 снежня 2002 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №5. 5/11747.

• • •

*15 студзеня* Міністэрства інфармацыі зацвердзіла Палажэнне аб Рэспубліканскай камісіі па тэлебачанні і радыёвяшчанні[5]. Адной з задачаў камісіі з'яўляецца:

> *“обеспечивать сохранение единого информационного пространства, реализацию государственной политики в области развития телерадиовещания”,*

а ў функцыі ўваходзіць разгляд заяваў на права наземнага эфіранага тэлерадыёвяшчання.

Згодна з палажэннем, склад камісіі зацвярджаецца загадам міністра інфармацыі, які таксама з’яўляецца старшынём камісіі.

• • •

*27 лютага* Савет Міністраў пастанавіў працягнуць на 2003—2004 гг. праграму падтрымкі цэнтралізаванай сістэмы друку гарадскіх і раённых дзяржаўных газет, якая ажыццяўлялася цягам 1999—2002 гг.[6] Пастанова прадугледжвае фінансаванне захадаў праграмы як з нацыянальнага, так і з мясцовых бюджэтаў. Пастанова пачала дзейнічаць з моманту падпісання.

• • •

*24 красавіка* з’явіўся Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №174 “Аб некаторых пытаннях Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь”[7]. Сярод іншага, указ зацвердзіў новы статут Белтэлерадыёкампаніі, паводле якога кампанія атрымала функцыі рэспубліканскага органа дзяржаўнага кіравання[8]. Указ абавязаў узгадняць з Белтэлерадыёкампаніяй усе праекты нарматыўных прававых актаў у галіне тэлерадыёвяшчання, чым дазволіў ёй уплываць на зместавы бок гэтых дакументаў[9]. Указ пачаў дзейнічаць з моманту падпісання.

• • •

*27 траўня* міністр інфармацыі падпісаў загад “Аб кадравым рэестры Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь”[10].

---

[5] Пастанова Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь №1 ад 15 студзеня 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. №16. 8/9051.

[6] Пастанова Савету Міністраў №265 “Аб працягу на 2003—2004 гады дзеяння Мерапрыемстваў па падтрымцы цэнтралізаванай сістэмы друку гарадскіх і раённых газет на 1999—2002 гады”. 27 лютага 2003 г.

[7] Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №50. 1/4572.

[8] 14 красавіка 1995 г. Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь прааналізаваў аналагічную норму палажэння аб Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, зацверджаную ўказам прэзідэнта 28 верасня 1994 г. Суд палічыў, што *“сочетание в одном лице функций центрального органа государственного управления и средства массовой информации входит в противоречие со статьей 13 Конституции”* і пастанавіў, што згаданая норма страчвае сілу з 1 ліпеня 1995 г.

[9] Іншыя аспекты ўказа — гл. раздзел “Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый”.

[10] Загад Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь №94 ад 27 траўня 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003 г. №69. 8/9632.

У пералік пасадаў, прызначэнне на якія ажыццяўляецца загадам міністра інфармацыі, трапілі, сярод іншых: (генеральныя) дырэктары і намеснікі (генеральных) дырэктараў установаў “Белсаюздрук”, “Дом прэсы”, “Паліграфматэрыялы”, “Тэрмаскан”, “Міжнародны цэнтр інтэграцыйнай інфармацыі. Грамадскі прэс-цэнтр Дома прэсы”, “Нацыянальная кніжная палата Беларусі”, холдынгу “Літаратура і мастацтва”, а таксама шэрагу дзяржаўных газет[11].

Акрамя таго, абавязковаму ўзгадненню з міністрам інфармацыі належыць прызначэнне на пасады генеральнага дырэктара і намесніка генеральнага дырэктара выдавецтва “Беларускі дом друку”, начальнікаў упраўленняў аблвыканкамаў, галоўных рэдактараў абласных газет, дырэктараў абласных друкарняў, галоўных рэдактараў СМІ, выдаўцом якіх выступае РУП “Дом прэсы”, а таксама намеснікаў рэдакараў шэрагу дзяржаўных выданняў.

• • •

*30 траўня* Савет Міністраў зацвердзіў пастанову “Аб памерах і парадку спагнання рэгістрацыйнага збору за рэгістрацыю сродкаў масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь”[12]. Збор за рэгістрацыю перыядычных друкаваных выданняў вырас з 15 да 25 базавых велічыняў.

• • •

*30 траўня* Савет Міністраў зацвердіў палажэнне “Аб прадастаўленні на конкурснай аснове права наземнага эфірнага тэлерадыёвяшчання”[13]. Адной з умоваў удзелу ў конкурсе з’яўляецца наяўнасць зарэгістраванага СМІ (тэле- або радыёпраграмы), а таксама падрабязная “творчая канцэпцыя наземнага эфірнага тэлерадыёвяшчання з указаннем тэматыкі трансляваных перадач у працэнтных суадносінах”. Сярод дадатковых умоваў працягу ліцэнзіі — заключэнне Міністэрства інфармацыі пра тое, што заяўнік не парушаў заканадаўства аб СМІ і выканаў заяўленую раней творчую канцэпцыю вяшчання.

• • •

*30 чэрвеня* Савет Міністраў зацвердзіў пастанову “Аб прыёмных сістэмах тэлебачання і радыёвяшчання”[14]. Пастананова надала Міністэрству інфармацыі паўнамоцтвы зацвярджаць сацыяльны пакет тэлепраграм (абавязковы для трансляцыі ўсімі аператарамі кабельных сетак)[15]. Трансляцыя пашыранага пакета тэлеканалаў (тых, што не ўваходзяць у сацыяльны) павінна ўзгадняцца з Міністэрствам інфармацыі і

---

[11] Гл. таксама раздзел “Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый”.

[12] Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №64. 5/12550.

[13] Пастанова Савету Міністраў №726 ад 30 траўня 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003 г. №64. 5/12557.

[14] Пастанова Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь №885. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003 г.№77. 5/12746.

[15] У сацыяльны пакет тэлеканалаў, зацверджаны Міністэрствам інфармацыі з 1 студзеня 2004 г., уключаны: 1-шы Нацыянальны тэлеканал, ОНТ, СТВ, Лад, а таксама расійскія тэлеканалы РТР і НТВ. Крыніца: Міністэрства інфармацыі.

адпаведнымі аблвыканкамамі (а таксама прыраўнаным да іх Мінскім гарвыканкамам). Абавязковай умовай узгаднення пашыранага пакета тэлепраграм з'яўляецца наяўнасць дамовы аператара з праваўладальнікам кожнай з гэтых тэлепраграм. Міністэрства можа адмовіцца ўзгадніць пашыраны тэлепакет пры адсутнасці дамовы або ў выпадку парушэння аператарам заканадаўства аб СМІ. Невыкананне пастановы пагражае прыпыненнем або ануляваннем ліцэнзіі. Пастанова пачала дзейнічаць з 20 ліпеня.

• • •

*20 кастрычніка* Савет Міністраў зацвердзіў палажэнні аб ліцэнзаванні выдавецкай і друкарскай дзейнасці[16]. Палажэнні распрацаваныя ў адпаведнасці з Дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 ліпеня 2003 г. №17 “Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці”[17] і пачалі дзейнічаць 1 лістапада.

Ліцэнзію на выдавецкую дзейнасць могуць атрымаць юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі на 5-гадовы тэрмін. Юрыдычныя асобы павінны мець у сваім штаце супрацоўніка з вышэйшай адукацыяй, які прайшоў атэстацыю ў выглядзе кваліфікацыйнага экзамену. Індывідуальны прадпрымальнік павінен сам мець вышэйшую адукацыю і здаць кваліфікацыйны экзамен. Міністэрства інфармацыі можа анулюваць ліцэнзію ў выпадках, калі:

- ліцэнзаваная дзейнасць супярэчыць інтарэсам Рэспублікі Беларусь;
- у выданнях выкарыстоўваюцца звесткі, распаўсюд якіх забаронены або абмежаваны заканадаўствам;
- выданне мае нізкую выдавецка-друкарскую якасць;
- выпуск выдання парушае аўтарскія правы;
- выпуск выдання парушае нарматыўна-прававыя акты, якія рэгламентуюць выдавецкую дзейнасць.

Ліцэнзію на ажыццяўленне друкарскай дзейнасці могуць атрымаць юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі тэрмінам на 5 год. Ліцэнзійным патрабаваннем як да юрыдычных асоб, так і для індывідуальных прадпрымальнікаў, ёсць наяўнасць у штаце спецыялістаў, якія маюць вышэйшую адукацыю ў галіне друкарства і працуюць поўны працоўны дзень. Сярод іншых патрабаванняў, палажэнне аб ліцэнзаванні друкарскай дзейнасці абавязвае ўсіх рэгіянальных прэтэндэнтаў на атрыманне ліцэнзіі спачатку атрымаць адпаведнае заключэнне абласнога ўпраўлення інфармацыі. Ліцэнзія можа быць анулявана, сярод іншага:

- за парушэнне парадку рассылкі абавязковых асобнікаў;
- за нясвоечасовыя або недакладныя справаздачы;
- за набыццё друкарскага абсталявання без дазволу Міністэрства інфармацыі[18].

---

[16] Пастанова Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь №1376. 20 кастрычніка 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. №121. 5/13255.

[17] Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003 г. №79. 1/4779.

[18] Абавязковаму ўзгадненню з Міністэрствам інфармацыі падлягае набыццё:

- абсталявання для вытворчасці фота- і друкарскіх форм;
- друкавальнага абсталявання ўсіх тыпаў і відаў друку, а таксама лічбавых дуплікатараў;

• • •

*20 кастрычніка* Савет Міністраў зацвердзіў палажэнне аб ліцэнзаванні распаўсюду прававой інфармацыі[19].

Пад прававой інфармацыяй, як і раней, разумеюцца тэксты нарматыўна-прававых актаў. Яе распаўсюд, у тым ліку праз СМІ, застаецца ліцэнзаваным відам дзейнасці, ліцэнзія выдаецца Міністэрствам юстыцыі на тэрмін 5 год. Абавязковай умовай для юрыдычных асоб ёсць запіс у статуце арганізацыі аб магчымасці распаўсюду прававой інфармацыі, а таксама наяўнасць у штаце спецыялістаў з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй. Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія хочуць займацца распаўсюдам прававой інфармацыі, павінны мець вышэйшую юрыдычную адукацыю.

• • •

*20 кастрычніка*, выконваючы Дэкрэт №17 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь[20], Савет Міністраў далучыў паслугі паштовай сувязі да ліцэнзаваных відаў дзейнасці[21]. *15 снежня* быў прыняты закон “Аб паштовай сувязі”, паводле якога прыём падпіскі і дастаўка друкаваных СМІ пачалі лічыцца паслугай паштовай сувязі[22].

У сакавіку 2004 г. Міністэрства сувязі заявіла, што з 1 траўня 2004 г. падпіска і дастаўка друкаваных СМІ рэдакцыямі, якія не маюць адпаведнай ліцэнзіі, будуць лічыцца незаконнымі.

• • •

*30 кастрычніка* Міністэрства сувязі зацвердзіла пастанову “Аб зацвярджэнні тарыфаў на паслугі па эфірнай трансляцыі праграм тэлерадыёвяшчання”[23].

• • •

*4 лістапада* Міністэрства інфармацыі зацвердзіла Інструкцыю аб парадку набыцця друкарскага абсталявання[24]. Паводле інструкцыі, друкарскае абсталяванне можна набываць толькі з дазволу Міністэрства інфармацыі. Заяву з абгрунтаваннем неабходнасці набыцця абсталявання міністэрства разглядае цягам месяца і можа

---

- пераплётна-брашуравальнага абсталявання ўсіх тыпаў;
- абсталявання для рэзкі паперы і кардону.

[19] Пастанова Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь №1363. 20 кастрычніка 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №121. 5/13248.

[20] Дэкрэт Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 14 ліпеня 2003 г. №17 “Аб ліцэнзаванні асобных відаў дзейнасці”. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003 г. №79. 1/4779.

[21] Палажэнне аб ліцэнзаванні дзейнасці ў галіне сувязі, зацверджанае Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь №1387. 20 кастрычніка 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актраў Рэспублікі Беларусь. №122. 5/13297.

[22] Закон аб паштовай сувязі ад 15 снежня 2003 г. №258-З. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2004. №2. 2/1007.

[23] Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №128. 8/10191.

[24] Пастанова Міністэрства інфармацыі №29. 4 лістапада 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2004. №27. 8/10552. Пастанова афіцыйна дзейнічае з лютага 2004 г.

прыняць рашэнне выдаць або не выдаваць адпаведны дазвол. Дазвол Міністэрства інфармацыі дзейнічае на працягу 6 месяцаў.

Адначасова Міністэрства інфармацыі зацвердзіла інструкцыю аб парадку правядзення кваліфікацыйнага экзамену для атрымання ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць і пералік ведамаснай літаратуры, для выпуску якой не трэба атрымліваць ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць.

### 2. Прававое рэгуляванне доступу да інфармацыі

*16 чэрвеня* створаныя ў 2002 г. інфармацыйна-кансультатыўныя групы[25] былі ператвораныя ў рэспубліканскія інфармацыйна-прапагандысцкія[26]. Дзейнасць груп ажыццяўляецца:

> "*в рамках единых дней информирования населения в третий четверг каждого месяца по тематике, определяемой Администрацией Президента Республики Беларусь*".

Той жа ўказ прэзідэнта абавязаў Савет Міністраў да 1 жніўня 2003 г. стварыць галіновыя інфармацыйна-прапагандысцкія групы

> "*для разъяснения в коллективах работников государственной внутренней и внешней политики, а также для информирования по экономическим вопросам*".

Акрамя таго, дзяржаўныя СМІ атрымалі даручэнне "шырока асвятляць дзейнасць інфармацыйна-прапагандысцкіх груп". Кантралюе выкананне ўказу Адміністрацыя прэзідэнта.

• • •

*9 ліпеня* падпісаны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №300 "Аб зацвярджэнні пераліку дзяржаўных органаў і арганізацый, якія надзяляюцца паўнамоцтвамі па аднясенні звестак да дзяржаўных сакрэтаў і іх абароне". Указ пашырыў колькасць дзяржаўных інстытуцый, якія маюць права абмяжоўваць доступ да інфармацыі пра сваю дзейнасць, да 62. Сярод іншых арганізацый, такое права ўпершыню атрымалі Міністэрства культуры, Міністэрства інфармацыі і аблвыканкамы. Указ пачаў дзейнічаць 11 ліпеня.

---

[25] Распараджэнне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 9 студзеня 2002 г. №21рп "Аб стварэнні і дзейнасці інфармацыйна-кансультатыўных груп".

[26] Указ Президента Республики Беларусь №254 "О деятельности информационно-пропагандистских групп и об участии руководителей республиканских и местных государственных организаций в идеологической работе". Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №69. 1/4692.

• • •

*25 ліпеня* Міністэрства абароны зацвердзіла Інструкцыю аб парадку карыстання глабальнай камп'ютэрнай сеткай Інтэрнэт ва Узброеных сілах Рэспублікі Беларусь[27].

## Спыненне або прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі

Паводле арт. 16 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі",

> "*Деятельность средства массовой информации может быть приостановлена по решению учредителя, регистрирующего органа или суда в случае нарушения редакцией средства массовой информации требований настоящего Закона на срок до трех месяцев*".

У 2003 г. Міністэрства інфармацыі ўпершыню актыўна выкарыстоўвала сваё права прыпыняць дзейнасць СМІ на тэрмін да трох месяцаў, што мела адмоўныя вынікі для эканамічнага становішча гэтых медыяў і звужала абсяг іх інфармацыйнага ўплыву. Амаль ва ўсіх выпадках прыпыненню дзейнасці газет папярэднічала вынясенне папярэджанняў за парушэнні Закона аб друку. Большасць газет, дзейнасць якіх была прыпыненая, да канца года так і не змагла аднавіць выхад.

• • •

[27] Загад Міністэрства абароны №29. 25 ліпеня 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №92. 8/9868.

*26 лютага* Міністэрства інфармацыі "ў сувязі з грубымі парушэннямі заканадаўства аб друку" прыпыніла на тры месяцы дзейнасць рэгіянальнай газеты "Вечерний Столин" (Брэсцкая вобл.). Акрамя дзвюх публікацый[28], нагодай для прыпынення газеты стала "змена тэматыкі з вытворча-практычнай на масава-палітычную" без унясення зменаў у пасведчанне аб рэгістрацыі газеты. Напярэдадні — 24 і 25 лютага — газета атрымала два папярэджанні за парушэнне арт. 5 Закона аб друку.

• • •

*18 красавіка* Міністэрства інфармацыі на неакрэслены тэрмін — "да ліквідацыі парушэнняў", але не больш як на тры месяцы — прыпыніла выхад рэгіянальнай газеты "Провинциалка" (г. Столін, Брэсцкая вобл.). У якасці абгрунтавання рашэння называюцца: змена тэматыкі і адрасу выдання, а таксама перавышэнне дазволенага аб'ёму (30%) рэкламы. Да канца года выхад газеты не аднавіўся.

• • •

*22 траўня* Міністэрства інфармацыі на тры месяцы прыпыніла выхад газеты "Навінкі" (г. Мінск). Прыпыненне газеты супала з вынясеннем двух папярэджанняў за парушэнне арт. 5 Закона аб друку (21 і 22 траўня). Паказальна, што рэдакцыя пра спыненне газеты даведалася 3 чэрвеня ад супрацоўнікаў РУП "Белсаюздрук", якія, спаслаўшыся на загад міністра, адмовіліся прыняць газету на распаўсюд. Да канца года газета не змагла аднавіць рэгулярны выхад.

• • •

*28 траўня* міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны падпісаў загад аб прыпыненні на тры месяцы дзейнасці яшчэ дзвюх агульнанацыянальных газет: "Белорусской деловой газеты"[29] і "БДГ. Для служебного пользования" (выдавец — УП "Марат"). У якасці падставаў для такіх захадаў называюцца прадстаўленні Пракуратуры Рэспублікі Беларусь аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб друку, якія выявіліся ў газетных публікацыях.

Гэтак, фармальнай прычынай прыпынення "Белорусской деловой газеты" сталі артыкулы "Барский имидж" (№57, 18 красавіка 2003 г.) і "Где "леоновские миллионы"?.."

---

[28] В знак протеста // "Вечерний Столин". 2003. №5. 1 лютага; В Столинском районе нет мафии! У нас — вертикаль... // "Вечерний Столин". 2003. №6. 8 лютага.
Адзін са згаданых артыкулаў стаў падставай для ўзбуджэння супраць заснавальніка і рэдактара "Вечернего Столина" Аляксандра Ігнацюка крымінальнай справы. Падрабязнасці гл. раздзел "Крымінальныя справы супраць журналістаў".

[29] Пасля прыпынення выхаду "БДГ" шэраг выданняў распачалі акцыю салідарнасці, якая выявілася ў тым, што газеты аддавалі свае плошчы пад матэрыялы журналістаў "БДГ". У акцыі ўдзельнічалі: "Эхо", "Предпринимательская газета", "Салідарнасць", "Местная газета Шаг". Усе гэтыя выданні сутыкнуліся з рознага кшталту праблемамі: ад прыпынення выхаду на тры месяцы ("Эхо" і "Предпринимательская газета") да немагчымасці друкавацца ў Беларусі ("Местная газета Шаг" і "Салідарнасць") і неадэкватна вялікіх штрафаў ("Салідарнасць"). У чэрвені Камітэт дзяржкантролю сумесна з Міністэрствам інфармацыі зладзілі праверку фінансава-гаспадарчай дзейнасці газеты "Салідарнасць" і па выніках праверкі аштрафавалі газету больш як на 4 млн руб. (каля USD2 000) за парушэнне стандарту падачы выдавецкіх звестак.

(№62, 29 красавіка 2003 г.). Гэтыя ж артыкулы паслужылі падставай для вынясення газеце двух папярэджанняў.

Штомесячны дадатак да "БДГ" — "БДГ. Для служебного пользования" — быў прыпынены за "распаўсюд недаставерных звестак" у артыкулах "Система жертв не считает. Опала довела бывшего министра до самоубийства" (№4, красавік 2003 г.) і "Магический кристалл" (№3, сакавік 2003 г.). У першай палове 2003 г. Міністэрства вынесла газеце 4 папярэджанні.

Пасля сканчэння тэрміну прыпынення дзейнасці "БДГ" сутыкнулася з паўсюднымі адмовамі паліграфічных прадпрыемстваў Беларусі друкаваць выданне і была змушаная перанесці друк у Расію. На сакавік 2004 г. рэдакцыя не здолела аднавіць выпуск "БДГ. Для служебного пользования".

• • •

*4 чэрвеня* загадам міністра інфармацыі на тры месяцы прыпыніўся выхад газеты "Эхо" (г. Мінск, выдавец — УП "Марат"). Газеце інкрымінавана парушэнне арт. 11 Закона аб друку (змена тэматыкі і юрыдычнага адрасу, а таксама назвы выдання без перарэгістрацыі). Да канца года газета так і не змагла аднавіць выхад.

• • •

*19 чэрвеня* Міністэрства інфармацыі прыпыніла выхад "Предпринимательской газеты" (г. Мінск, выдавец — УП "Марат") "у сувязі з парушэннем рэдакцыяй заканадаўства аб друку, якое выявілася ў апублікаванні несапраўдных звестак". *11 і 19 чэрвеня* міністэрства двойчы выносіла папярэджанні газеце за "змену тэматыкі і юрыдычнага адрасу выдання", а таксама за публікацыю матэрыяла "Узаконенный беспредел". *25 чэрвеня* міністр інфармацыі скасаваў сваё папярэджанне ад 11 чэрвеня, аднак гэты факт не меў ніякага ўплыву на рашэнне аб прыпыненні газеты, бо фармальна выданне газеты было прыпыненае за публікацыю недаставерных звестак.

*У ліпені* Пракуратура Рэспублікі Беларусь афіцыйна прызнала, што фактычнай прычынай прыпынення дзейнасці газеты стаў яе ўдзел у акцыі салідарнасці з "БДГ":

> *"Газета "Предпринимательская газета" (№17, 18) вышла с подзаголовочными данными "За Белорусскую деловую газету", при этом издательское частное предприятие "Марат" непосредственно осуществляло подготовку названных номеров газеты к изданию. Министерством информации соучредителям вышеназванной газеты также вынесено предупреждение за нарушение законодательства о печати.*
>
> *В связи с допущенными правонарушениями Министерством информации Республики Беларусь деятельность газеты "Предпринимательская газета" ... приостановлена на три месяца"*[30].

Пасля сканчэння трохмесячнага тэрміну "Предпринимательская газета" да красавіка 2004 г. здолела выдаць 3 нумары.

---

[30] Тэкст афіцыйнага папярэджання, вынесенага ў ліпені Пракуратурай Рэспублікі Беларусь галоўнаму рэдактару "БДГ" Святлане Калінкінай.

• • •

*28 ліпеня*, разам з 34 іншымі друкаванымі медыямі, якія не выходзілі цягам больш як аднаго года[31], Міністэрства інфармацыі беспадстаўна анулявала рэгістрацыйнае пасведчанне газеты "День". Нягледзячы на тое, што ўжо *30 ліпеня* рэдакцыя звярнулася ў міністэрства з просьбай скасаваць няпраўны загад і прадала сведчанні выхаду газеты, загад быў скасаваны толькі *25 жніўня*.

Пасля скасавання загаду рэдакцыя цягам некалькіх наступных месяцаў не здолела падпісаць дамову на друк "Дня" ні з адной беларускай друкарняй і з пачатку 2004 г. друкуецца ў Расіі.

• • •

*7 кастрычніка* міністр інфармацыі адклікаў пасведчанне аб рэгістрацыі газеты "Голас Пружаны", палічыўшы, што газета не выходзіла на працягу года. Рэдактар выдання Іосіф Машкала не пагадзіўся з такім рашэннем, аргументуючы, што з моманту выхаду апошняга нумара газеты мінуў менш як адзін год, і звярнуўся ў міністэрства з просьбай скасаваць загад аб закрыцці газеты.

Тым не менш, *24 сакавіка 2004 г.* Міністэрства інфармацыі адмовілася аднавіць рэгістрацыйнае пасведчанне "Голасу Пружаны", спаслаўшыся на тое, што заснавальнік газеты не падаў у міністэрства рашэння аб стварэнні рэдакцыі газеты і яе статут.

• • •

*2 кастрычніка* міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч падпісаў загад аб прыпыненні на неакрэслены тэрмін "да ліквідацыі парушэння", але не больш як на тры месяцы выхаду "Новой газеты Сморгони". Міністэрства інфармацыі абгрунтавала свае захады тым, што заснавальнік газеты Рамуальд Улан не мае дамовы з юрыдычнай асобай, у статут якой занесены выпуск газеты як від дзейнасці і якая можа ўтварыць рэдакцыю. Да сакавіка 2004 г. газета так і не здолела аднавіць выхад[32].

## Папярэджанні

Пасля спаду ў 2001—2002 гг. дынамікі вынясення Міністэрствам інфармацыі папярэджанняў аб парушэнні заканадаўства аб СМІ[33], 2003 г. вызначыўся ростам колькасці папярэджанняў.

---

[31] Арт. 11 Закона аб друку дэкларуе, што *"средство массовой информации подлежит перерегистрации, если оно не выпускается более одного года"*, а таму Міністэрства інфармацыі лічыць "страціўшымі сілу" пасведчанні аб рэгістрацыі тых выданняў, чые заснавальнікі не звярнуліся ў міністэрства па сканчэнні згаданага тэрміну з просьбай аб перарэгістрацыі.

[32] Гл. таксама раздзел "Судовыя канфлікты".

[33] За студзень—снежань 2002 г. Міністэрства інфармацыі вынесла 27 папярэджанняў. Крыніца: Н. Подгорная. Пресса как зеркало общества // Минский курьер. 2003. №28. 15 апреля.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, толькі за 5 першых месяцаў 2003 г. міністэрства вынесла 37 папярэджанняў 25 выданням. Найбольшую колькасць прэтэнзій з боку міністэрства выклікалі парушэнні, звязаныя з перарэгістрацыяй медыяў: 16 папярэджанняў, вынесеных за парушэнне арт. 11 Закона аб друку. Яшчэ 7 папярэджанняў былі вынесены за парушэнне арт. 5 Закона ("Недапушчальнасць злоўжывання свабодай масавай інфармацыі"). Выхад трох з чатырох выданняў, якія атрымалі гэтыя папярэджанні, быў перапынены на трохмесячны тэрмін (падрабязнасці гл. у раздзеле "Спыненне або прыпыненне дзейнасці СМІ ўладамі", а таксама ў раздзеле "Судовыя канфлікты").

Акрамя выпадкаў атрымання папярэджанняў газетамі, мелі месца папярэджанні з боку Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, зробленыя індывідуальным журналістам. Фіксаваліся таксама выклікі журналістаў на "тлумачальныя размовы" ў Пракуратуру.

• • •

*15 траўня* Пракуратура Рэспублікі Беларусь афіцыйна папярэдзіла журналіста газеты "Народная воля" Аляксандра Сіліча ў сувязі з публікацыяй артыкула "Сегодня ночью Саддам Хусейн приземлился в Национальном аэропорту «Минск»" (№59, 1 красавіка 2003 г.). Нягледзячы на тое, што артыкул меў характар першакрасавіцкага жарту, пра што было паведамлена ў тым жа нумары газеты, пракуратура класіфікавала яго як "дэзінфармацыю" і "палітычную правакацыю".

• • •

*У ліпені* папярэджанні Пракуратуры Рэспублікі Беларусь атрымалі генеральны дырэктар выдавецкага прыватнага унітарнага прадпрыемства "Марат" Пётр Марцаў і галоўны рэдактар "Белорусской деловой газеты" Святлана Калінкіна. Падставай для вынясення папярэджанняў стала праверка адпаведнасці заканадаўству аб друку дзейнасці "Марата" і "БДГ" "у сувязі са зваротам" Міністэрства інфармацыі. Пракуратура заявіла, што:

> "*несмотря на принятое Министерством информации Республики Беларусь … решение о приостановлении деятельности газеты "Белорусская деловая газета", редакция газеты фактически продолжала незаконно издавать газету под другими названиями*"[34].

• • •

29 красавіка журналістку недзяржаўнай газеты "Народная воля" Марыну Коктыш выклікалі ў Пракуратуру РБ для "тлумачальнай размовы". Пракурор Станіслаў Новікаў заявіў, што яна парушыла адразу некалькі артыкулаў Закона аб друку, змясціўшы на старонках газеты вытрымкі з прамовы ў судзе былога дырэктара МТЗ Міхаіла Лявонава. Гэты ж матэрыял стаў падставай для вынясення газеце папярэджання Міністэрства інфармацыі за парушэнне арт. 5 Закона аб друку.

---

[34] Тэкст папярэджання.

• • •

*У верасні—кастрычніку* заснавальніка і галоўнага рэдактара баранавіцкай “Местной газеты Шаг” (Брэсцкая вобл.) Анатоля Вайцяхоўскага тройчы выклікалі ў ба ранавіцкую гарадскую пракуратуру. Пытанні, якія задавалі супрацоўнікі пракуратуры, датычылі з’яўлення ў двух ліпеньскіх нумарах газеты матэрыялаў журналістаў прыпыненай “БДГ”. Памочніца пракурора Зоя Жук абгрунтавала дзеянні пракуратуры запытам з аддзелу па правах грамадзянаў Пракуратуры Рэспублікі Беларусь.

• • •

*15 кастрычніка* Пракуратура Рэспублікі Беларусь узяла тлумачэнні з журналісткі Ірыны Халіп з прычыны двух артыкулаў[35], надрукаваных у маскоўскай “Новой газете”.

## Цэнзура

Закон аб друку Рэспублікі Беларусь вызнае і забараняе толькі папярэдні тып цэнзуры. Паводле арт. 4 Закона, цэнзура ёсць:

> “*требование от редакции со стороны государственных органов, организаций, учреждений, общественных объединений, их должностных лиц предварительно согласовывать сообщения и материалы, а также требование снять с печати (эфира) тот либо другой материал или сообщение*”.

У 2003 г. мелі месца як выпадкі папярэдняй цэнзуры з боку дзяржаўных органаў, так і факты постцэнзуры, што выяўлялася ў адсочванні ўладамі ўжо апублікаванай інфармацыі з мэтай ажыццяўлення далейшых абмежавальных захадаў супраць журналістаў.

Цягам года з’яўляліся неаднаразовыя паведамленні пра выклікі журналістаў дзяржаўных СМІ ў выканкамы з нагоды “шкодных” з пункту гледжання чыноўнікаў публікацый.

• • •

*На пачатку жніўня* Нясвіжская ўзбуйненая друкарня імя С. Буднага (Мінская вобл.) адмовілася друкаваць нумар газеты “Нясвіжскі час” за 8 жніўня. Рашэнне было прынятае пасля таго, як са зместам падрыхтаванага да друку нумара азнаёміўся загадчык аддзелу інфармацыі Нясвіжскага райвыканкаму Аляксандр Карнюшкін. Чыноўнік “забракаваў” змест артыкула, у якім прыводзілася цытата пасла ЗША ў Беларусі Майкла Козака пра гандаль зброяй паміж Беларуссю і Іракам, а таксама інфармацыю пра звальненне дырэктара Нясвіжскай друкарні Аляксандра Ладзяты пасля таго, як прадпрыемства надрукавала ў “Местной газете Шаг” (г. Баранавічы, Брэсцкая вобл.) матэрыялы журналістаў прыпыненай “БДГ”. У выніку інцыдэнту выдавец “Нясвіжскага часу” адмовіўся ад паслуг Нясвіжскай друкарні.

---

[35] “Саддам может скрываться в Беларуси” і “Белорусский блефмейкер прикинулся девушкой”.

• • •

*У чэрвені* Міністэрства інфармацыі, якое перыядычна адслухоўвала эфір камерцыйных радыёстанцый, але не мела тэхнічных магчымасцяў для рэгулярнага кантролю, пачало мэтанакіравана адсочваць змест інфармацыйных паведамленняў FM-радыёстанцый. Гэта выявілася ў патрабаванні ад усіх FM-станцый дасылаць у міністэрства ў канцы працоўнага дня поўныя раздрукоўкі тэкстаў інфармацыйных выпускаў, а таксама плэй-лісты. Зборам і аналізам эфірных матэрыялаў FM-станцый займаецца Галоўнае аналітычнае ўпраўленне міністэрства, вядучы спецыяліст якога Дзмітрый Конанаў наступным чынам пракаментаваў новаўвядзенне: “шмат чаго адбываецца ў СМІ, і часам неабходна мець на руках доказы”.

• • •

*На пачатку студзеня* ва Упраўленне інфармацыі і друку Гомельскага аблвыканкаму выклікалі карэспандэнтку ОНТ Алену Клімаву. Незадавальненне чыноўнікаў выклікаў рэпартаж, паказаны ў навінах ОНТ 2 студзеня, у якім паведамлялася, што паштары Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці фактычна змушаюць пенсіянераў выпісваць газеты, шантажуючы тым, што ў адваротным выпадку перастануць насіць пенсіі. У якасці ілюстрацыі ў рэпартажы прыводзіўся той факт, што паштары падпісалі на дзіцячую газету “Зорька” непісьменную жыхарку ва ўзросце 82 год.

• • •

Таксама ў *студзені* пасля публікацый у газетах “Гомельские ведомости” і “Вечерний Гомель” матэрыялаў пра пераход калгаснікаў на працу ў фермерскую гаспадарку Міхаіла Шруба (Жыткавіцкі раён Гомельскай вобл.) ва Упраўленне інфармацыі і друку аблвыканкаму выклікалі аўтараў артыкулаў Віялету Дралюк і Руслана Праляскоўскага.

Практычна адначасова з прычыны публікацый ва ўпраўленне выклікалі рэдактараў газет Мікалая Дзямчыхіна і Аляксея Канаваленку. У выніку інцыдэнту рэдактар “Вечернего Гомеля” паведаміў у рэдакцыі, што газета больш не будзе друкаваць матэрыялаў на тэму згаданай фермерскай гаспадаркі.

Варта таксама адзначыць, што, калі заснавальнікам “Гомельских ведомостей” з’яўляюцца гарвыканкам і гарсавет, то “Вечерний Гомель” — прыватнае выданне.

## Канфлікты, звязаныя з вырабам і распаўсюдам прадукцыі СМІ

Найбольш паказальныя канфлікты, звязаныя з вырабам і распаўсюдам недзяржаўных СМІ, датычылі:

- канфіскацый газет праваахоўнымі органамі;

- фактычна нематываваных адмоваў паліграфічных прадпрыемстваў друкаваць наклады;
- забаронаў на распаўсюд газет.

### 1. Канфіскацыі і затрыманні накладаў

У адрозненне ад 2002 г., летась міліцыя неаднаразова сканфіскоўвала наклады друкаваных выданняў.

• • •

*9 студзеня* ў Гомелі два сержанты міліцыі збілі распаўсюдніка газеты "Зубр" актывіста незарэгістраванага моладзевага руху "Зубр" Дзяніса Чыкалёва. Некалькі соцень газет былі сканфіскаваныя.

Выданне "Зубр" не мае рэгістрацыі Міністэрства інфармацыі.

• • •

*11 чэрвеня* супрацоўнікі УУС Мінскага аблвыканкаму сканфіскавалі 8 пакункаў (каля 1 600 асобнікаў) "Предпринимательской газеты" з матэрыяламі журналістаў прыпыненай "Белорусской деловой газеты". Інцыдэнт меў месца ў офісе выдаўца "Предпринимательской газеты" УП "Марат"; прадпісання на правядзенне дзеянняў на тэрыторыі прадпрыемства супрацоўнікі міліцыі не паказалі. У гэты ж дзень пазней у аддзяленні сувязі №60 г. Мінска супрацоўнікі крымінальнага вышуку Кастрычніцкага раёна сканфіскавалі 3 500 асобнікаў "Предпринимательской газеты". Інфармацыі, на падставе якіх дакументаў адбылася канфіскацыя, няма.

• • •

*18 чэрвеня* ў Дубровенскім раёне (Віцебская вобл.) супрацоўнікі міліцыі сканфіскавалі цэлы наклад нумару "Предпринимательской газеты" (5 тыс. асобнікаў). Канфіскацыя адбылася падчас транспартавання надрукаванага накладу газеты з друкарні ў Смаленску. Адначасова былі сканфіскаваныя арыгіналы дамовы на выпуск газеты паміж УП "Марат" і ФГУП "Смоленский полиграфический комбинат".

• • •

*У снежні* ў выніку затрымання экспедытарскай машыны ТАА "Росчырк" супрацоўнікамі ОБЭП (Аддзел барацьбы з эканамічнай злачыннасцю) са спазненнем на адзін дзень у продаж паступіла "Белорусская газета" і яшчэ некалькі выданняў. Затрыманне машыны адбылося *15 снежня* ў Мінску і доўжылася калі трох гадзін, ніякіх парушэнняў з боку экспедытараў кантралёры не зафіксавалі.

### 2. Адмовы друкаваць выданні

У 2003 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь афіцыйна дэкларавала, што

*"всем без исключения периодическим изданиям гарантирован доступ к государственной полиграфической базе, государственной системе распространения пе-*

*чати”*[36].

Тым не менш, цягам года значна павялічылася колькасць выпадкаў, калі паліграфічныя прадпрыемствы скасоўвалі ўжо дзейныя або адмаўляліся падпісваць новыя пагадненні на друк недзяржаўнай прэсы. У шэрагу выпадкаў выданні былі змушаныя заключыць дамовы на паліграфічныя паслугі з расійскімі прадпрыемствамі, што значна падвысіла сабекошт вытворчасці.

• • •

*4 чэрвеня* ў Мінску РУП “Чырвоная зорка” скасавала дамовы на друк газет “Эхо” і “Предпринимательская газета” ў звязку з “нездавальняючым тэхнічным станам друкарскай машыны”. Інцыдэнт адбыўся пасля таго, як гэтыя выданні выйшлі з матэрыяламі журналістаў прыпыненай “БДГ”. *5 чэрвеня* з пасады дырэктара РУП “Чырвоная зорка” быў звольнены Уладзімір Целеш. Афіцыйнай прычынай звальнення стала “невыкананне ўмоваў кантракту”.

• • •

*11 чэрвеня* “Чырвоная зорка” адмовілася ўзяць у вытворчасць газету “Салідарнасць”, якая таксама змясціла матэрыялы “БДГ”. Пасля гэтага інцыдэнту галоўны рэдактар “Салідарнасці” Аляксандр Старыкевіч паведаміў, што ўсе беларускія друкарні, куды ён звяртаўся з прапановай падпісаць дамову на друк газеты, адмовіліся супрацоўнічаць. У выніку выданне газеты прыпынілася і аднавілася толькі ў кастрычніку. *У снежні* ў сувязі з немагчымасцю заключыць дамову на друк газеты з беларускімі прадпрыемствамі рэдакцыя была змушана звярнуцца ў Смаленскую друкарню (Расія). На сакавік 2004 г. газета працягвала друкавацца ў Смаленску.

• • •

*18 ліпеня* Слонімская друкарня (Гродзенская вобл.) скасавала дамову на паліграфічныя паслугі з баранавіцкай недзяржаўнай “Местной газетой Шаг”, спаслаўшыся на тэхнічныя прычыны “ввиду недостаточности мощностей”[37]. Скасаванню дамовы папярэднічала наведванне прадпрыемства дзяржаўнай інспекцыяй і звальненне кіраўніка службы маркетынгу; дырэктар прадпрыемства трапіў у бальніцу з сардэчным прыступам.

• • •

*30 ліпеня* Нясвіжская ўзбуйненая друкарня імя С. Буднага (Мінская вобл.) адмовілася друкаваць гэтую ж газету, спасылаючыся на “злом тэхналагічнага абсталявання”. *28 ліпеня* стала вядома пра звальненне з пасады дырэктара гэтай друкарні Аляксандра Ладзяты. Паводле начальніка Упраўлення інфармацыі Мінскага аблвыканкаму Таццяны Дзедух, прычынай скасавання дамовы стала невыкананне плана і зацягнуты пераезд дру-

---

[36] Інтэрнэт-сайт Міністэрства інфармацыі (http: //mininform.gov.by/data/main/massmedia/publishing).

[37] Ліст дырэктара унітарнага паліграфічнага прадпрыемства “Слонімская друкарня” А. А. Лагуціка ад 18.07.2003 г. №01-05/285.

карні ў новы будынак[38]. Як і Слонімская друкарня, прадпрыемства ў Нясвіжы ўваходзіць у структуру Міністэрства інфармацыі.

Складанасці з друкам "Местной газеты Шаг" узніклі пасля таго, як газета надрукавала матэрыялы журналістаў прыпыненай "БДГ". Рэдактар выдання Анатоль Вайцяхоўскі паведаміў, што да канца года рэдакцыя не здолела заключыць дамову на друк газеты ні з водным беларускім паліграфічным прадпрыемствам і ў выніку перастала выходзіць. Да сакавіка 2004 г. выданне газеты не аднавілася.

• • •

*На пачатку жніўня* Нясвіжская друкарня з цэнзурных меркаванняў адмовілася друкаваць нумар мясцовай недзяржаўнай газеты "Нясвіжскі час" за 8 жніўня, у якім была змешчана інфармацыя пра звальненне Аляксандра Ладзяты (падрабязнасці гл. у раздзеле "Цэнзура"). У выніку выдавец быў змушаны адмовіцца ад паслугаў гэтай друкарні і перанесці друк выдання ў іншае месца.

• • •

З *25 жніўня і да канца года* выдавец газеты "День" не змог падпісаць дамовы на друк свайго выдання на тэрыторыі Беларусі. Выхад газеты быў перапынены і аднавіўся толькі ў студзені 2004 г., калі газета пачала друкавацца ў Смаленску (Расія).

• • •

Пасля сканчэння *на пачатку верасня* трохмесячнага тэрміна прыпынення выхаду "Белорусской деловой газеты" рэдакцыя была змушаная друкаваць наклад выдання ў Смаленску (Расія). Паводле неафіцыйнай інфармацыі, дырэктары дзяржаўных беларускіх друкарняў атрымлівалі папярэджанні "зверху" аб магчымасці скасавання сваіх кантрактаў у выпадку заключэння дамоваў на друк любых газет, выдаўцом якіх з'яўляецца УП "Марат"[39]; прыватныя друкарні адмовіліся ад супрацоўніцтва з УП "Марат", баючыся скасавання ліцэнзій на друкарскую дзейнасць і праверак.

• • •

*З 14 верасня* рэчыцкая друкарня "Тытул" (Гомельская вобл.) скасавала дамову на друк светлагорскай незалежнай газеты "Регион-вести", спасылаючыся на вялікую загружанасць у сувязі з "сезоннай працай па выпуску календароў". Паводле галоўнага рэдактара выдання Міколы Паседзькі, усе спробы рэдакцыі дамовіцца на вытворчасць газеты ў друкарнях г. Жлобіна, Бабруйска, Мазыра і самога Светлагорска скончыліся безвынікова і рэдакцыя была змушаная перанесці друк газеты ў Мінск, што значна павысіла сабекошт вытворчасці.

• • •

*23 лістапада* Лідская друкарня (Гродзенская вобл.) адмовілася надрукаваць нумар недзяржаўнай газеты "Тэлескоп", не папярэдзіўшы пра гэта рэдакцыю.

---

[38] Следы ведут в "БДГ"? // Нясвіжскі час. 2003. №32 (38). 8 жніўня.

[39] УП "Марат" з'яўляецца выдаўцом "БДГ".

### 3. Забарона на распаўсюд

Зафіксаваныя выпадкі забароны на распаўсюд, у т. л. на продаж, недзяржаўных СМІ. Большасць такіх забарон мела характар вусных дырэктываў з боку мясцовых уладаў.

• • •

*У красавіку* падчас візіту ў Оршу (Віцебская вобл.) міністр культуры Леанід Гуляка, пабачыўшы ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Пушкіна падшыўкі недзяржаўных газет "Народная воля" і "БДГ", заявіў, што "шкодным апазыцыйным выданьням няма чаго рабіць у культурным цэнтры"[40]. У выніку гэтыя газеты, а таксама недзяржаўны "Витебский курьер" былі прыбраныя з паліц усіх бібліятэк горада. Акрамя таго, усе дзяржаўныя ўстановы Оршы, якія дагэтуль выпісвалі "Витебский курьер", адмовіліся ад падпіскі.

• • •

*6 чэрвеня*, падчас акцыі калектыўнай салідарнасці газет з прыпыненай "Белорусской деловой газетой"[41], віцэ-прэзідэнт Беларускага канцэрна па матэрыяльных рэсурсах А. С. Радкевіч выдаў пісьмовы загад кіраўнікам прадпрыемстваў і адкрытых акцыянерных таварыстваў, якія ўваходзяць у канцэрн,

> *"под личную ответственность руководителя исключить поступление и реализацию газет: "Солидарность", "Эхо", "Предприниматель", "Беларусь сегодня", "Беларусь today"*[42].

• • •

*З 5 да 10 чэрвеня* ў Баранавічах (Брэсцкая вобл.) 12 гандлёвых кропак адмовіліся прадаваць газету "Intex-press". Кіраўнікі гандлёвых кропак адмовіліся патлумачыць прычыны свайго раптоўнага рашэння. Па неафіцыйнай інфармацыі, яны атрымалі адпаведнае тэлефоннае распараджэнне з мясцовага гарвыканкаму. Рэдакцыя паведаміла, што з кожным з гэтых гандлёвых прадпрыемстваў былі падпісаныя адпаведныя дамовы.

• • •

У *сярэдзіне жніўня* віцебскае прадпрыемства "Аблкнігагандаль" адмовілася прыняць на рэалізацыю 25 асобнікаў часопіса "Arche". Мясцовыя назіральнікі звязваюць гэты інцыдэнт з візітам у Віцебск намесніцы міністра інфармацыі Ліліі Ананіч.

---

[40] Радыё "Свабода", 2 чэрвеня 2003 г.

[41] Падрабязнасці гл. у раздзеле "Спыненне або прыпыненне дзейнасці СМІ уладамі".

[42] На выкарыстанне "тэлефоннага права" пры складанні гэтага загада ўказвае тое, што назвы выданняў пералічаны вельмі недакладна: газеты "Предприниматель" не існуе, а "Беларусь сегодня" з'яўляецца не назвай газеты, а рэкламным слоганам газеты Адміністрацыі прэзідэнта "Советская Белоруссия", а таксама перакладам назвы газеты "Belarus Today".

• • •

*У канцы верасня* пінскае аддзяленне РА “Брэстаблсаюздруку” адмовілася браць на рэалізацыю газету “Мясцовы час”, выдаўцом якой з’яўляецца выдавецкі дом “Інтэкс-прэс”. У якасці абгрунтавання адмовы называецца “перагружанасць гандлёвай сеткі”.

• • •

*У лістападзе* Светлагорскае раённае спажывецкае таварыства (Гомельская вобл.) скасавала дамову на продаж у сваіх крамах мясцовай недзяржаўнай газеты “Регион-вести” пасля таго, як адну з такіх крам наведаў старшыня райвыканкаму Баляслаў Пірштук. У неафіцыйнай гутарцы кіраўніцтва таварыства паведаміла, што ім забаранілі прадаваць “Регон-вести” і параілі прадаваць “Советскую Белоруссию” і “Гомельскую праўду”. У выніку “Регион-вести” страціла каля 30 кропак продажу.

• • •

*Напрыканцы года* з’явілася інфармацыя пра тое, што адміністрацыя Крычаўскага ліцэя (Магілёўская вобл.) пад пагрозай адлічэння з навучальнай установы забараніла сваім выхаванцам распаўсюджваць мясцовыя недзяржаўныя маланакладныя (299 асобнікаў) выданні “Маладзёжны кур’ер” і “Крычаўлянка”, якія выдае мясцовы грамадскі інфармацыйны цэнтр “Кантакт”.

## Абмежаванне права засноўваць СМІ

Абмежаванне права засноўваць новыя СМІ заставалася адной з самых датклівых праблем 2003 г. Згодна з артыкулам 3 Закона “Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі”,

*“граждане Республики Беларусь имеют право учреждать средства массовой информации, владеть, пользоваться и распоряжаться ими”.*

На практыцы мясцовыя ўлады вельмі часта абмяжоўваюць гэтае права, забараняючы размяшчэнне рэдакцый новых медыяў на падведамасных тэрыторыях[43]. Адсутнасць заканадаўча замацаваных крытэрыяў пры разглядзе мясцовымі ўладамі пытанняў аб размяшчэнні рэдакцый СМІ мае вынікам фактычна нематываваныя адмовы ўзгадняць размяшчэнне новых СМІ.

• • •

*26 лютага* Крычаўскі райвыканкам (Магілёўская вобл.) адмовіўся ўзгадніць размяшчэнне газеты “Вольны горад”. У якасці абгрунтавання называецца тое, што заснавальнік газеты індывідуальны прадпрымальнік Сяргей Няроўны не з’яўляецца ўласнікам памяшкання, у якім мае размясціцца рэдакцыя.

• • •

*28 траўня* Крычаўскі райвыканкам адмовіўся ўзгадніць размяшчэнне "Новой газеты Кричева" на той падставе, што заснавальнік газеты — індывідуальны прадпрымальнік Андрэй Кузьмін — не прадставіў ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць.

• • •

*У чэрвені* Крычаўскі райвыканкам адмовіўся ўзгадніць размяшчэнне газеты "Собственный комментарий" на падставе таго, што заснавальнік выдання індывідуальны прадпрымальнік не можа выступаць у якасці рэдакцыі. Заснавальнік выдання Уладзімір Кудраўцаў абскардзіў гэтую адмову ў Магілёўскі аблвыканкам, і апошні прызнаў рашэнне крычаўскіх райвыканкаму незаконным, але не скасаваў яго. Пасля гэтага Крычаўскія ўлады адмовіліся ўзгадняць размяшчэнне рэдакцыі, ніяк не матывуючы сваё рашэнне. *10 студзеня 2004 г.* Вышэйшы гаспадарчы суд прызнаў адмову райвыканкама ўзгадніць размяшчэнне СМІ не адпаведнай закону. Аднак мясцовыя ўлады так і ўзгаднілі размяшчэння газеты.

• • •

*Пачынаючы з сакавіка*, рэкламна-выдавецкае унітарнае прадпрыемства "Палард" (г. Светлагорск Гомельскай вобл.) чатыры разы звярталася ў Светлагорскі райвыканкам з просьбай узгадніць размяшчэнне ў г. Светлагорску "Нашай газеты" і двойчы — узгадніць размяшчэнне часопіса "Активист". Фармальнай прычынай адмоваў сталася парушэнні ў парадку афармлення дакументаў. Гаспадарчы суд Гомельскай вобласці, дзе "Палард" спрабаваў абскардзіць рашэнне выканкаму, адмовіўся разглядаць справу, спасылаючыся на яе непадведамаснасць.

• • •

*Цягам года* ЗАО "Белорусский рынок" не змагло зарэгістраваць сваё новае выданне "Европейский выбор". Прычынай сталася адмова Мінскага гарвыканкаму ўзгадніць размяшчэнне СМІ.

• • •

Яшчэ ў адным выпадку выдавецкае прыватнае прадпрыемства "Вольніца-медыя" змагло зарэгістраваць газету толькі пасля таго, як звярнулася ў суд з зыскам да Міністэрства інфармацыі і Міністэрства фінансаў на суму больш як 2 млн руб. Прычынай звароту ў суд сталася неабгрунтаванае зацягванне прыняцця рашэння аб рэгістрацыі СМІ ў Міністэрстве інфармацыі.

---

[43] Патрабаванне да заснавальнікаў СМІ прыкладаць да заявы аб рэгістрацыі дакумент аб узгадненні размяшчэння СМІ з мясцовымі ўладамі было ўведзенае ў заканадаўства ў студзені 1998 г.

# Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый

Паводле Закона аб друку, умяшанне ў дзейнасць і парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый ёсць замахам на свабоду масавай інфармацыі і караецца ў адпаведнасці з заканадаўствам (арт. 48). На практыцы гэтая норма вельмі шырака парушалася. Рашэнні, прыманыя цягам года на самым высокім узроўні, заахвочвалі ўмяшальніцтва выканаўчых уладаў як у творчыя, так і ў гаспадарчыя справы рэдакцый СМІ. Акрамя таго, працягвалася практыка ўзгаднення з выканаўчымі ўладамі кадравых прызначэнняў у медыях самых розных узроўняў.

• • •

*14 красавіка* Аляксандр Лукашэнка даў цэлы шэраг даручэнняў, якія датычылі функцыянавання СМІ. Сярод іншага, Міністэрства інфармацыі атрымала загад:

*“совместно с облисполкомами и Минским горисполкомом обеспечить повышение идейно-содержательного уровня и улучшение качества печати периодических изданий, дотируемых из средств местных бюджетов”*[44].

Адначасова Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі даручалася:

*“обновить интерьер студии новостей и телевизионные заставки, отразив в них государственную символику*[45]*”*

*“с 1 сентября 2003 г. организовать циклы теле- и радиопередач по патриотической и духовно-нравственной тематике для школьников и учащейся молодежи”*[46].

Сярод іншых медыйных установаў, якія атрымалі заданні беспасярэдне ад А. Лукашэнкі, былі ЗАТ “Другі нацыянальны тэлеканал” і ЗАТ “Сталічнае тэлебачанне”, якія ў новым тэлесезоне павінны былі стварыць:

*“программы общественно-политической направленности, раскрывающие сущность идеологии белорусского государства”*[47],

а таксама інфармацыйнае агенцтва БелТА і рэдакцыя газеты “Советская Белоруссия”. Апошняя павінна забяспечыць цягам 2004—2005 гг. рост накладу выдання да 500 тыс. асобнікаў.

Кантралюе выкананне вышэйзгаданых даручэнняў Адміністрацыя прэзідэнта.

---

[44] Протокол поручений Президента Республики Беларусь, данных по итогам состоявшегося 27—28 марта 2003 г. постоянно действующего семинара руководящих работников республиканских и местных государственных органов “О состоянии идеологической работы и мерах по ее совершенствованию” 14 апреля 2003 г. №15 // Информационный бюллетень Администрации Президента Республики Беларусь. 2003. №4 (83). С. 68—72. П. 3.6.

[45] Протокол... П. 14.1.1.

[46] Протокол... П. 14.2.

[47] Протокол... П. 15.

• • •

*24 красавіка* прэзідэнт зацвердзіў Статут Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі[48]. Паводле Статута, старшыня НДТРК прызначаецца на пасаду і звальняецца з яе прэзідэнтам краіны. Акрамя таго, гэтым жа ўказам прэзідэнта вызначаецца колькасць супрацоўнікаў НДТРК, якія ўтрымліваюцца за кошт нацыянальнага бюджэту, і колькасць службоўцаў дзяржаўнага апарату ў НДТРК.

• • •

*27 траўня* міністр інфармацыі падпісаў загад "Аб кадравым рэестры Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь"[49]. У пералік пасадаў, прызначэнне на якія ажыццяўляецца загадам міністра інфармацыі, трапілі, Сярод іншых кіраўнікоў, галоўныя рэдактары шэрагу дзяржаўных выданняў:

- газет "Белорусская нива" (заснавальнік — Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь);
- "Наша доля" (заснавальнік — Цэнтральнае праўленне Беларускага таварыства інвалідаў);
- "Народная газета" (выдавец — Адкрытае акцыянернае таварыства "Народная газета");
- часопісаў "Алеся", "Вожык", "Бярозка", "Вясёлка".

Узгадненню з міністрам інфармацыі падлягаюць прызначэнні намеснікаў галоўных рэдактараў гэтых выданняў.

• • •

*16 чэрвеня* падпісаны Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №254 "Аб дзейнасці інфармацыйна-прапагандысцкіх груп і аб удзеле кіраўнікоў рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў і іншых дзяржаўных арганізацый у ідэалагічнай рабоце"[50]. Указ наўпрост абавязвае дзяржаўныя медыі шырака асвятляць дзейнасць інфармацыйна-прапагандысцкіх групаў.

• • •

*У жніўні* Гомельская абласная студыя тэлебачання адмовілася ад супрацоўніцтва з журналістам Аляксандрам Шкутом пасля выхаду першай праграмы цыкла "Добрый вечер!" з яго ўдзелам. Рэжысёр праграмы Людміла Шастакова паведаміла, што папярэдне ўзгодніла кандыдатуру А. Шкута з кіраўніцтвам тэлерадыёаб'яднання, аднак пасля выхаду праграмы ў эфір кіраўніцтва студыі атрымала "званок зверху" і не дазволіла запрашаць А. Шкута ў праграму.

---

[48] Указ Президента Республики Беларусь №124 "О некоторых вопросах Национальной телерадиокомпании Республики Беларусь". 24 красавіка 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №50. 1/4572.

[49] Загад Міністэрства інфармацыі №94 ад 27 траўня 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №69. 8/9632.

[50] Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2003. №69. 1/4692.

• • •

*1 лістапада* хойніцкая раённая газета “Ленінскі сцяг” (Гомельская вобл., заснавальнікі — Хойніцкі раённы Савет дэпутатаў, Хойніцкі райвыканкам, рэдакцыя газеты) у нататцы “Новыя назначэнні” апублікавала інфармацыю пра тое, што:

*“председатель райисполкома Н. И. Садченко дал согласие на назначение Стасько Натальи Васильевны корреспондентом отдела социальных проблем Учреждения “Редакция районной газеты “Ленінскі сцяг”.*

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

Абмежаванне доступу да інфармацыі — найбольш пашыраны тып парушэнняў заканадаўства аб друку. У 2003 г. яно рэалізоўвалася праз адмовы ў інфармацыі, а таксама абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі СМІ пры дзяржаўных органах.

### 1. Адмова ў інфармацыі

Артыкул 33 Закона “Аб друку ды іншых сродках масавай інфармацыі” абмяжоўвае магчымасць адмовіць журналісту ў інфармацыі толькі тымі выпадкамі, калі інфармацыя ўтрымлівае:

*“сведения, составляющие государственную, коммерческую либо иную специально охраняемую законом тайну”.*

На практыцы журналісты часта сутыкаліся з неабгрунтаванымі адмовамі ў інфармацыі. Агульная сітуацыя з доступам да інфармацыі мала адрознівалася ў розных рэгіёнах, таму выпадкі, зарэгістраваныя летась у Гомельскай вобласці можна разглядаць як тыповыя.

• • •

*5 красавіка* 2003 г. начальнік аддзела Гомельскага цэнтра стандартызацыі і метралогіі Любоў Карнейкава адмовіла ў інфармацыі карэспандэнту прыватнай газеты “Вечерний Гомель” Святлане Смірновай. Пачаткова сп. Карнейкава дала згоду паінфармаваць журналістку, аднак калі апошняя прыйшла на загадзя дамоўленую сустрэчу, то даведалася, што не зможа атрымаць інфармацыі, бо звесткі на гэтую ж тэму запытала газета “Гомельская праўда”. Чыноўніца паведаміла, што “Гомельская праўда” — орган аблвыканкаму, а да таго ж “Вечерний Гомель” мае малы наклад. Пытанне, якое цікавіла газету “Вечерний Гомель”, датычыла выпадкаў продажу няякасных харчоў у крамах і кавярнях Гомеля. На момант інцыдэнту наклад “Гомельской правды” складаў 20 тыс. асобнікаў, а “Вечернего Гомеля” — 17,5 тыс.

• • •

*У красавіку* дырэктар Гомельскага хімічнага завода І. І. Антохаў адмовіў карэспандэнту “Народнай волі” па Гомельскай вобласці Анатолю Гатоўчыцу ў інфармацыі, што датычыла фінансавання вытворчасці фосфарных угнаенняў. Свае дзеянні дырэктар матываваў тым, што для яго “існуе толькі дзяржаўная прэса”.

• • •

*3 траўня* дзяржаўная газета “Гомельская праўда” апублікавала інфармацыю пра тое, што прадпрыемства “Гомельавія” адмаўляецца даваць інфармацыю пра інцыдэнт, у выніку якога ў Нігерыі загінуў самалёт прадпрыемства. Намеснік дырэктара прадпрыемства Юрый Дзеравянка матываваў рашэнне не кантактаваць з журналістамі тым, што “слишком много недостоверной информации о самолете проскочило в СМИ”.

• • •

*У кастрычніку* з’явілася паведамленне пра тое, што намеснік начальніка Гомельскага абласнога ўпраўлення Міністэрства надзвычайных становішчаў загадаў супрацоўнікам прэс-цэнтру ўпраўлення не даваць інфармацыі тэлеканалу ОНТ. Незадаволенасць МНС выклікаў сюжэт карэспандэнта ОНТ па Гомельскай вобласці Алены Клімавай, паказаны ў навінах ОНТ 17 кастрычніка. У рэпартажы распавядалася пра тое, як жыхары шматкватэрных дамоў у г. Брагіне ў чаканні халоднай зімы пачалі назапашваць дровы і будаваць у кватэрах індывідуальныя крыніцы ацяплення.

### 2. Абмежавальнае выкарыстанне інстытуту акрэдытацыі

Існаванне інстытуту акрэдытацыі пры выканаўчых камітэтах розных узроўняў, а таксама пры органах унутраных спраў істотна ўплывала на правы недзяржаўных медыяў атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю. У 2003 г. улады працягвалі выкарыстоўваць працэдуру акрэдытацыі ў якасці механізму абмежавання доступу недзяржаўных СМІ да афіцыйнай інфармацыі.

• • •

З канца 2001 г. не можа аднавіць сваёй акрэдытацыі пры Упраўленні ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкаму ўласны карэспандэнт “Белорусской деловой газеты” Ірына Макавецкая. Пасля таго, як у 2001 г. у І. Макавецкай скралі дакументы (у т. л. і акрэдытацыйнае пасведчанне), распачалася перапіска рэдакцыі газеты з прэс-службаю Гомельскага УУС аб акрэдытацыі. На 15 сакавіка 2004 г. прагрэсу ў гэтай справе не назіралася.

• • •

*У ліпені* ў Віцебску не атрымала акрэдытацыі на музычным фестывалі “Славянскі базар” журналістка дзяржаўнай газеты “Народнае слова” Таццяна Пастэрнак. Паведамлялася, што са спісаў на акрэдытацыю яе прозвішча выкраслілі па ініцыятыве Упраўлення інфармацыі Віцебскага аблвыканкаму. Акрамя таго, рэдакцыя газеты перастала пасылаць яе на мерапрыемствы з удзелам афіцыйных асоб. Мясцовыя назіральнікі звязваюць гэ-

тыя факты з публікацыяй напярэдадні сакавіцкіх выбараў у мясцовыя саветы ў "Белорусской деловой газете" крытычнага матэрыялу пра старшыню Віцебскага аблсавету дэпутатаў Аляксандра Ацясава; аўтарам артыкула была Таццяна Пастэрнак.

У параўнанні з 2002 г. значна вырасла колькасць выпадкаў, калі мясцовыя ўлады выкарыстоўвалі адсутнасць акрэдытацыі для абмежавання прысутнасці журналістаў на афіцыйных мерапрыемствах.

• • •

*25 чэрвеня* з сесіі Смаргонскага раённага Савету дэпутатаў (Гродзенская вобл.) міліцыя выдаліла кіраўніка Смаргонскай філіі ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" журналістку "Новой газеты Сморгони" Аліну Суравец. Адпаведную прапанову вынес старшыня Савету Мікалай Шыш, заявіўшы, што А. Суравец не мае пісьмовага запрашэння на пасяджэнне. Сесія была адкрытай: перад яе пачаткам дзяржаўная раённая газета "Светлы шлях" надрукавала запрашэнне ўсім кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый паўдзельнічаць у ёй. Пасля таго, як журналістка звярнулася ў суд са скаргаю на дзеянні Савету, высветлілася, што ў пратаколе пасяджэння сесіі ад 25 чэрвеня была зацверджаная пастанова і надалей не дапускаць на сесіі журналістаў "Новой газеты Сморгони". (Падрабязнасці судовага разгляду гл. у раздзеле "Судовыя працэсы".)

• • •

*2 ліпеня* дэпутаты Горацкага раённага Савету (Магілёўская вобл.) выдалілі з пасяджэння сесіі Савету журналістаў недзяржаўных мясцовых выданняў "Региональные ведомости" і "Дзядзька Тарас". Падставаю для дзеянняў дэпутатаў сталася адсутнасць афіцыйнай акрэдытацыі журналістаў пры мясцовым савеце.

• • •

*Цягам года* Ганцавіцкі райвыканкам (Брэсцкая вобл.) двойчы адмаўляўся акрэдытоўваць журналістаў газеты "Ганцавіцкі час", не падаючы прычын адмоваў. *30 жніўня* карэспандэнт газеты Пётр Гузаеўскі быў выдалены з раённай настаўніцкай канферэнцыі пасля заявы старшыні райвыканкаму Уладзіміра Столяра, які паведаміў, што інфармацыя, якую ён збіраецца агучыць, "не для газеты "Ганцавіцкі час" ".

• • •

*У лістападзе* Нясвіжскі райвыканкам (Мінская вобл.) не дазволіў рэдактару газеты "Нясвіжскі час" Вользе Варэнік прысутнічаць на сесіі мясцовага Савету дэпутатаў з прычыны адсутнасці акрэдытацыі пры райвыканкаме.[51] У лісце, падпісаным намеснікам старшыні выканкаму Г. А. Яновіч, адзначаецца беспасярэдняя сувязь паміж магчымасцю акрэдытацыі і зместам газеты:

---

[51] Выдавец газеты — выдавецкі дом "Інтэкс-прэс" цягам года прынамсі двойчы звяртаўся ў Нясвіжскі райвыканкам з просьбай аб акрэдытацыі журналістаў "Нясвіжскага часу" (лісты ад 4 красавіка 2003 г. №18 і ад 30 траўня 2003 г. №40).

*“Хотелось, чтобы в дальнейшем материалы, публикуемые Ольгой Вареник по освещению жизнедеятельности района, были объективны, без каких-либо предвзятостей, тогда вопрос ее участия в проведении общественно-значимых мероприятий в районе будет решен положительно”*[52].

Упраўленне інфармацыі Мінскага аблвыканкамітэту, куды са скаргаю звярнуўся выдавецкі дом “Інтэкс-прэс”, не ўбачыла ў дзеяннях мясцовых выканаўчых уладаў парушэння заканадаўства, нягледзячы на тое, што акрэдытацыя на сесіях мясцовых саветаў належыць да кампетэнцыі мясцовай прадстаўнічай, а не выканаўчай улады.

• • •

*У снежні* Слонімскія райвыканкам і Савет дэпутатаў (Гродзенская вобл.) з прычыны “немэтазгоднасці” адмовіліся акрэдытаваць журналіста мясцовай “Газеты Слонімскай” Міколу Канановіча. У якасці матывацыі называецца тое, што дзейнасць райвыканкаму і Савету “широко освещается на страницах газеты “Слонімскі веснік” (заснавальнік — Слонімскі райвыканкам). Акрамя таго,

*“Информация о проводимой исполкомом работе, его решениях доводится до сведения населения через заместителей директоров предприятий по информационно-воспитательной работе, размещается на информационных стендах и уголках, досках объявлений, имеющихся практически на всех предприятиях, организациях, учреждениях”*[53].

Цягам года мелі месца выпадкі пазбаўлення акрэдытацыі журналістаў замежных медыяў.

• • •

*28 студзеня* Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь адмовіла ў акрэдытацыі журналісту славацкай газеты “SME” Любаміру Гомбашу, які меў намер асвятляць мясцовыя выбры ў Беларусі. Любамір Гомбаш быў акрэдытаваны пры МЗС з 2000 г., аднак у верасні 2001 г. пасля прэзідэнцкіх выбараў МЗС адмовілася працягнуць акрэдытацыю; фармальнаю прычынай адмовы стала парушэнне журналістам адміністратыўнага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

• • •

*27 чэрвеня* МЗС пазбавіў акрэдытацыі карэспандэнта расійскага канала НТВ Паўла Селіна. *28 чэрвеня* журналіст атрымаў пастанову аб дэпартацыі з тэрыторыі Беларусі “ў добраахвотным парадку”. Падставаю для захадаў з боку ўладаў стаўся сюжэт пра пахаванне Васіля Быкава. Міністэрства ўнутраных спраў палічыла, што

“*матэрыял журналіста накіраваны на дэстабілізацыю абстаноўкі ў краіне і правакуе канфрантацыю*”[54].

---

[52] Ліст ад 5 лістапада 2003 г. №02-9/1049.

[53] Ліст ад 30.12.2003 г. №01-12/142 за подпісам старшыні Слонімскага райвыканкаму М. Б. Касцюка.

[54] Звязда. 2003. №164—165. 1 ліпеня.

*7 ліпеня* пастановаю Савету Міністраў быў зачынены карэспандэнцкі пункт НТВ у Беларусі.

Закон аб друку ніяк не абмяжоўвае права журналістаў на атрыманне інфармацыі пра дзейнасць кіраўніка дзяржавы. Аднак, пачынаючы з 1998 г., доступ журналістаў на любыя імпрэзы з удзелам прэзідэнта краіны рэгулюецца Рэгламентам правядзення мерапрыемстваў з удзелам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Згаданы рэгламент быў зацверджаны ўказам прэзідэнта №19 ад 12 студзеня 1998 г. і нідзе не публікаваўся.

Паводле Рэгламента, прэс-служба прэзідэнта, узгадняючы свае дзеянні са Службаю бяспекі, вызначае персанальны склад журналістаў і фотакарэспандэнтаў для асвятлення імпрэзаў з удзелам прэзідэнта. Як і ў папярэднія гады, выкарыстанне Рэгламента мела абмежавальны характар і прыводзіла да парушэння права журналістаў на атрыманне інфармацыі.

• • •

Гэтак, *7 лютага* ў Гомелі не атрымалі акрэдытацыі на нараду з удзелам А. Лукашэнкі карэспандэнты “Белорусской деловой газеты” Ірына Макавецкая і “Народнай волі” Анатоль Гатоўчыц. Калі ў выпадку з А. Гатоўчыцам кіраўнік прэс-службы кіраўніка дзяржавы Дзмітрый Жук патлумачыў, што не ўбачыў заяўкі журналіста, то прычынай адмовы супрацоўніцы “БДГ” стаў “малы наклад выдання”.

## Распаўсюд замежнай інфармацыі

Цягам года ўрад праводзіў пачаты раней палітычны курс на абмежаванне ўплыву расійскіх медыяў.

• • •

*25 красавіка* падчас наведвання Гомельскай вобласці А. Лукашэнка выступіў з публічнай крытыкай расійскай газеты “Известия”, якая апублікавала інфармацыю на тэму магчымага гандлю з Іракам.

*У траўні* Міністэрства замежных спраў сур’ёзна крытыкавала “Известия” за публікацыю пра пахаладанне беларуска-расійскіх стасункаў (матэрыял “Лукашенко стал в позу. Официальный Минск повернулся к Москве спиной”, 22.05.2003). Прадстаўнік міністэрства ацаніў публікацыю як зняважальную і шкодную для іміджу Беларусі, і паведаміў, што яе з’яўленне істотна ўскладняе далейшую супрацу з карэспандэнтам “Известий” Аленай Данейкай. *29 траўня* МЗС вынес А. Данейцы афіцыйнае папярэджанне аб парушэнні Закона аб СМІ.

Паведамлялася таксама, што міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны звяртаўся да міністра інфармацыі Расійскай Федэрацыі Міхаіла Лесіна з просьбай зрабіць захады ў сувязі з публікацыяй няпраўдзівай інфармацыі.

• • •

*28 чэрвеня* пасля выхаду ў эфіры расійскай тэлекампаніі НТВ сюжэта пра пахаванне народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, быў пазбаўлены акрэдытацыі пры МЗС і дэпартаваны карэспандэнт тэлеканала Павел Селін. Інфармацыя, агучаная ў рэпартажы, правяралася на ўзроўні Дзяржаўнага сакратарыята Рады бяспекі[55]. *7 ліпеня* прадстаўніцтва НТВ у Беларусі было зачынена, і яго праца аднавілася толькі ў лютым 2004 г.

*З пачатку года* рабіліся захады з мэтай стымуляваць развіццё дзяржаўнай рэгіянальнай тэлесеткі за кошт скарачэння вяшчання расійскіх тэлеканалаў.

• • •

*З 1 лютага* трансляцыя рэгіянальнага тэлебачання ў шэрагу рэгіёнаў пачала ажыццяўляцца праз перадатчыкі, якія раней рэтранслявалі расійскі канал РТР. Гэта датычыла 8 перадатчыкаў: у Браславе (Віцебская вобл.), Брагіне, Жлобіне, Майскім, Жыткавічах (Гомельская вобл.), Слоніме, Смаргоні (Гродзенская вобл.), Крычаве (Магілёўская вобл.). Адначасова ў гэтых рэгіёнах было спынена вяшчанне расійскага тэлеканала “Культура”, а рэтранслятары “Культуры” пачалі выкарыстоўвацца для рэтрансляцыі РТР.

• • •

*З 1 кастрычніка* без папярэдняга паведамлення спынена трансляцыя праграм расійскага тэлеканала РТР у шэрагу раёнаў Гомельскай вобласці: Брагіне, Жлобіне, Мазыры. Дагэтуль цягам года было абмежаванае вяшчанне тэлеканала “НТВ”, які па-за межамі Гомеля стаў даступны толькі ўладальнікам спадарожнікавых антэн і абанентам кабельнага тэлебачання. Дырэктар рэгіянальнага вузла радыётэлесувязі Сяргей Пунтус паведаміў, што спыненне трансляцыі праграм РТР адбылося паводле распараджэння Белтэлерадыёкампаніі.

## Крымінальныя справы супраць журналістаў

У 2003 г. колькасць зарэгістраваных службай маніторынгу БАЖ выпадкаў крымінальных спраў супраць журналістаў скарацілася ў параўнанні з папярэднім годам з 7 да 2.

• • •

*У сакавіку* была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 189 ч. 2 КК (“Знявага”) па факце публікацыі ў брэсцкай абласной газеце “Заря” (заснавальнікі — Брэсцкі аблвыканкам, Брэсцкі абласны Савет дэпутатаў і рэдакцыя газеты) артыкула “Разборки у долларовой кормушки” (аўтар — Іван Буцько). Ініцыятарам працэсу стаў старшыня Баранавіцкай

[55] Звязда. 2003. №164—165. 1 ліпеня.

гарадской арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" Віктар Карлінскі. У чэрвені суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы прызнаў журналіста Івана Буцько вінаватым, аднак, улічыўшы пенсійны век адказніка і станоўчыя характарыстыкі з працы, ужыў адміністратыўнае пакаранне ў выглядзе штрафу. Пазней Калегія па крымінальных справах Брэсцкага абласнога суда адмяніла рэшэнне суда першай інстанцыі і вярнула справу на новы разгляд. На канец года новага разгляду справы не адбылося.

• • •

*Пачынаючы з траўня*, вялося крымінальнае следства супраць заснавальніка і галоўнага рэдактара газеты "Вечерний Столин" Аляксандра Ігнацюка. Справа была заведзеная паводле арт. 369 КК ("Абраза прадстаўніка ўлады") па публікацыях у №5 ад 1 лютага "Знак протеста" і №6 ад 8 лютага "Столинщина готова протестовать, пока Пашкевич и Протасовицкий при своих портфелях". Заяўнікам у судзе выступаў былы старшыня Уладзімір Пашкевіч. *10 снежня* суд Столінскага раёна Брэсцкай вобласці прызнаў А. Ігнацюка вінаватым і прысудзіў да штрафу памерам 30 базавых велічынь (495 тыс. руб., што эквівалентна USD 230).

• • •

*У 2003 г.* працягвалі адбываць пакаранне журналісты, асуджаныя пасля прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. да розных тэрмінаў абмежавання свабоды паводле артыкулаў Крымінальнага кодэксу — 367 ("Паклёп у дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь") і 368 ("Знявага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь").

*У сакавіку* гродзенскі журналіст Павал Мажэйка, які адбываў пакаранне ва ўстанове адкрытага тыпу ў горадзе Жлобіне (Гомельская вобл.), атрымаў умоўна-датэрміновае вызваленне. У тым жа месяцы былы рэдактар гродзенскай газеты "Пагоня" Мікола Маркевіч атрымаў дазвол вярнуцца з папраўчай установы ў горадзе Асіповічы (Магілёўская вобл.) і адбываць пакаранне па месцы жыхарства — у горадзе Гродна. Тэрмін яго пакарання скончыўся толькі ў сакавіку 2004 г.

*15 снежня* скончыўся тэрмін пакарання за "спробу паклёпу і знявагі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", які атрымаў рэдактар мінскай газеты "Рабочы" Віктар Івашкевіч.

## Замахі на журналістаў і медыі

### 1. Канфіскацыя маёмасці СМІ

У 2003 г. зафіксаваныя тры выпадкі канфіскацыі абсталявання і адзін выпадак, калі была скрадзеная інфармацыйная база газеты.

• • •

*2 студзеня* Камітэт дзяржаўнага кантролю сканфіскаваў відэаархіў кінастудыі "Таццяна" — больш за 200 касет. Яшчэ 4 прафесійныя відакамеры, 6 відэамагнітафонаў Betacam-SP, прафесійная гукаапаратура, камп'ютэрныя станцыі лінейнага відэамантажу і мантажу гуку былі апісаныя, а пазней — сканфіскаваныя. Частка сканфіскаванага абсталявання знаходзілася на балансе Беларускага саюза кінематаграфістаў, а частка належала маскоўскай кінастудыі "Кинофабрика им. Д. Харитонова" і была перадзеная кінастудыі на адказнае захаванне. Офіс кінастудыі быў апячатаны да *26 лютага*.

• • •

*На пачатку сакавіка* гаспадарчы суд Магілёўскай вобласці пастанавіў сканфіскаваць больш за 20 адзінак тэхнічнага абсталявання недзяржаўнай магілёўскай тэлестудыі "2-гі канал". Падставай для вынясення рашэння стала адсутнасць гігіенічных сертыфікатаў на абсталяванне. Зыскоўцам у справе выступіў Абласны камітэт фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю.

• • •

Таксама *ў сакавіку* гаспадарчы суд Гомельскай вобласці прыняў рашэнне аб канфіскацыі 7 адзінак відэатэхнікі ТДА "Эфір". У ліку сканфіскаваных аказаліся лічбавая відэакамера і відэамагнітафон, часова перададзеныя ў карыстанне беларускім прадстаўніцтвам Рады міжнародных даследаванняў і абменаў IREX. Ініцыятарам працэсу выступіў Камітэт дзяржкантролю па Гомельскай вобласці. Падставай для канфлікту стала адсутнасць дакументаў аб гігіенічнай рэгістрацыі тэхнікі.

• • •

Уначы на *31 сакавіка* з рэдакцыі газеты "Новы час" (г. Мінск) скралі жорсткі дыск рэдакцыйнага камп'ютэра. Акрамя інфармацыйнай базы выдання, з памяшкання нічога не прапала.

### 2. Замахі на жыццё і здароўе журналістаў

*21 лістапада* падчас выканання службовых абавязкаў у Слоніме былі збітыя журналісткі "Газеты Слонімскай" Таццяна Плахетка і Вольга Шынкевіч. Журналісткі пацярпелі ад вернікаў мясцовага праваслаўнага прыходу, калі спрабавалі зняць на фотакамеру канфлікт паміж імі і наведнікамі сеансу лекавання з дапамогай народнай медыцыны. Медыцынскае абследаванне зафіксавала моцны шок у Таццяны Плахеткі і мноства сінякоў у абедзвюх журналістак. Ніякіх захадаў супраць асобаў, якія збілі журналістак, праваахоўныя органы не зрабілі.

• • •

*У 2003 г.* не з'явілася новай інфармацыі пра лёс і месца знаходжання зніклага ў ліпені 2000 г. аператара расійскага тэлеканала ОРТ Дзмітрыя Завадскага.

*27 лістапада* суд Фрунзенскага раёна г. Мінска прызнаў Дз. Завадскага памерлым. З адпаведнай просьбай у суд звярнулася жонка Дз. Завадскага Святлана. *10 снежня* Пракуратура Рэспублікі аднавіла следства па справе аб знікненні Дз. Завадскага. У афіцыйным паведамленні, дасланым Святлане Завадскай, гаворыцца, што справа аднаўленая "ў сувязі з неабходнасцю правядзення следчых дзеянняў". *31 сакавіка 2004 г.* следства было прыпыненае другі раз "в связи с необнаружением безвестно исчезнувшего лица".

### 3. Затрыманні журналістаў

Цягам года служба маніторынгу ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" зафіксавала адзін выпадак затрымання журналіста праваахоўнымі органамі.

• • •

*24 чэрвеня* на плошчы Якуба Коласа ў Мінску быў затрыманы карэспандэнт недзяржаўнай газеты "Наша ніва" Зміцер Дзядзенка. Затрыманне адбылося падчас вулічнай акцыі, ладжанай выкладчыкамі і навучэнцамі Беларускага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя на знак пратэсту супраць змены кіраўніцтва гэтай установы. Журналіста завезлі ў Савецкі РУУС г. Мінска, дзе супрацоўнікі міліцыі знішчылі дыктафонны запіс, зроблены падчас акцыі, і адпусцілі без складання пратаколу аб адміністратыўным правапарушэнні.

## Судовыя працэсы

Як і ў папярэднія гады, улады працягвалі выкарыстоўваць суды як інструмент пакарання недзяржаўных медыяў.

Найбольш паказальнымі працэсамі былі справы, у якіх рэдакцыі ці заснавальнікі СМІ абскарджвалі рашэнні дзяржаўных органаў, а таксама справа аб абароне гонару і годнасці старшыні Белтэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова супраць газеты "Народная воля".

У 2003 г. Вышэйшы гаспадарчы суд прызнаў законнымі ўсе аспрэчваныя загады Міністэрства інфармацыі аб прыпыненні выхаду газет, а таксама пакінуў у сіле папярэджанні Міністэрства інфармацыі ды іншыя ненарматыўныя акты дзяржаўных органаў, якія спрабавалі аспрэчыць рэдакцыі СМІ.

У сувязі з прыпыненнем выхаду рашэнні прымаліся: "БДГ" — 25 чэрвеня; "БДГ. Для служебного пользования" — 9 ліпеня; "Новая газета Сморгони" — 2 снежня.

• • •

*17 чэрвеня* Вышэйшы гаспадарчы суд пакінуў у сіле рашэнне Міністэрства інфармацыі аб папярэджанні "БДГ" за парушэнне арт. 5 і 40 Закона аб друку, якое выявілася ў апублікаванні артыкула "Барский имидж" (№57 ад 18.04.2003). Матэрыял уяўляў сабою бліц-апытанне на тэму "ці мае права А. Лукашэнка па ўласным меркаванні распараджацца самалётам кіраўніка дзяржавы?" Міністэрства палічыла, што апытанне зневажае гонар і годнасць прэзідэнта РБ і ўводзіць у зман грамадзянаў. Папярэджанне было вынесенае 20 траўня, і ў выніку выхад газеты прыпыніўся на тры месяцы.

• • •

*19 чэрвеня* Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск рэдакцыі “БДГ” (УП “Марат”) да Міністэрства інфармацыі і пакінуў у сіле папярэджанне ад 22 траўня за артыкул “Где леоновские миллионы?..” Суд палічыў абгрунтаванымі прэтэнзіі Міністэрства інфармацыі, якое сцвярджала, што газета апублікавала матэрыялы крымінальнай справы без пісьмовага дазволу суддзі (парушэнне арт. 5 Закона аб друку). У публікацыі “БДГ” прыводзіліся цытаты з выказванняў на судзе падсуднага дырэктара Мінскага трактарнага завода Міхаіла Лявонава, які папрасіў далучыць свой выступ да матэрыялаў крымінальнай справы. Папярэджанне стала адной з падстаў для прыпынення выхаду газеты.

• • •

*8 ліпеня* Вышэйшы гаспадарчы суд прызнаў часткова несапраўдным папярэджанне Міністэрства інфармацыі ад 21 траўня, вынесенае газеце “БДГ. Для служебного пользования”. Міністэрства інфармацыі даводзіла, што ў серыі публікацый пад агульнай назвай “Афганские борзые” і артыкуле “Магический кристалл” (№3 (14) за сакавік 2003 г.) газета апублікавала няпраўдзівыя звесткі (парушэнне арт. 32 і 40 Закона аб друку). Пасля таго як аўтар часткі матэрыялаў журналістка Ірына Халіп прывяла ў судзе доказы праўдзівасці распаўсюджаных ёй звестак, частка звінавачанняў на адрас газеты былі прызнаныя неабгрунтаванымі.

Тым не менш, *9 чэрвеня* Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск УП “Марат” аб прызнанні незаконным загаду Міністэрства інфармацыі аб прыпыненні выхаду газеты на тры месяцы.

• • •

*23 ліпеня* Вышэйшы гаспадарчы суд адмовіў рэдакцыі газеты “Навінкі” ў зыску да Міністэрства інфармацыі, прызнаўшы сапраўдным папярэджанне ад *22 траўня*. Папярэджанне было вынесенае за “замах на маральнасць грамадзянаў” (арт. 5 Закона аб друку), якое выявілася ў апублікаванні матэрыялаў пад рубрыкай “Опіум для народа” (№11 (90), 17—24 красавіка 2003 г.), а таксама загалоўку на старонцы “Аналітыка” (№8 (87), 28 сакавіка — 3 красавіка 2003 г.).

*21 траўня* “Навінкі” атрымалі яшчэ адно папярэджанне міністэрства за парушэнне арт. 5 Закона аб друку (публікацыя двух здымкаў прэзідэнта краіны “з каментарамі зняважлівага характару”, якое мела месца ў №7 (86), 20—27 сакавіка 2003 г.). Папярэджанні сталі падставай для прыпынення выхаду газеты на тры месяцы.

• • •

*У студзені—верасні* адбываўся разгляд канфлікту паміж выдаўцом газеты “Местное время” ТАА “Местное время-пресс” і Мінскім аблвыканкамам[56]. Нягледзячы на тое, што

[56] Міністэрства інфармацыі зачыніла газету “Местное время” 26 лістапада 2002 г. пасля таго, як Мінскі райвыканкам ануляваў дазвол на арэнду памяшкання выдаўца газеты, ТАА “Местное время-пресс”, і Мінскі аблвыканкам скасаваў сваё рашэнне аб рэгістрацыі ТАА. Цягам 2003 г. рэдакцыя газеты спрабавала абскардзіць рашэнне аблвыканкаму ў судзе.

суды двойчы прымалі рашэнне на карысць выдаўца, аблвыканкам здолеў дамагчыся канчатковага закрыцця прадпрыемства.

*У студзені* рэдакцыя газеты (ТАА "Местное время-пресс") звярнулася ў Мінскі гарадскі гаспадарчы суд з зыскам да аблвыканкаму, патрабуючы ўзнавіць сваю рэгістрацыю, а таксама скампенсаваць матэрыяльныя страты, панесеныя ў выніку закрыцця. *У лютым* суд спыніў гэтую справу, спасылаючыся на тое, што "зысковец больш не існуе як юрыдычная асоба".

Пасля гэтага ў суд звярнуліся тры заснавальнікі ТАА. *16 красавіка* Мінскі гарадскі гаспадарчы суд прызнаў несапраўдным рашэнне Мінскага аблвыканкаму аб адмене рэгістрацыі ТАА "Местное время-пресс". Маёмасныя патрабаванні зыскоўцаў аб кампенсацыі стратаў рэдакцыі суд адхіліў.

*26 траўня* калегія Мінскага гарадскога гаспадарчага суда падтрымала гэтае рашэнне, адхіліўшы касацыйную скаргу Мінскага аблвыканкаму.

Тым не менш, *23 верасня* ТАА "Местное время-пресс" было ліквідаванае рашэннем Мінскага абласнога гаспадарчага суда. Зыск, які падаў Мінскі аблвыканкам, грунтаваўся на прадстаўленні Мінскай абласной інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах ад *21 ліпеня*, паводле якога "Местное время-пресс" своечасова не ўнесла ў статутныя дакументы інфармацыі пра змену свайго юрыдычнага адрасу.

• • •

Працяглы канфлікт паміж заснавальнікам і выдаўцом "Новой газеты Сморгони" (Гродзенская вобл.) Рамуальдам Уланам і Смаргонскім райвыканкамам прывёў да прыпынення выхаду газеты[57].

*3 лютага* па заяве Смаргонскага райвыканкаму Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці спыніў прадпрымальніцкую дзейнасць Р. Улана, у выніку чаго "Новая газета Сморгони" засталася без выдаўца. Усе касацыйныя інстанцыі, уключна з Вышэйшым гаспадарчым судом, пакінулі гэтае рашэнне без зменаў.

Напрыканцы лютага заснавальнік газеты падпісаў дамову з фермерскай гаспадаркай "Колас", якая ўнесла ў свой статут новы від дейнасці — "выданне газеты" — і падала гэтыя змены для дзяржаўнай рэгістрацыі ў Смаргонскі райвыканкам.

*11 сакавіка* Пракуратура Смаргонскага раёна вынесла кіраўніку гаспадаркі Мікалаю Сліжу папярэджанне за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць, а *4 красавіка* завяла супраць яго адміністратыўную справу (арт. 154 Адміністратыўнага кодэкса "Прадпрымальніцкая дзейнасць без адпаведнай рэгістрацыі").

*25 красавіка* Смаргонскі раённы суд прызнаў рацыю пракуратуры і аштрафаваў М. Сліжа на 20 базавых велічыняў, а таксама пастанавіў спагнаць усю суму прыбытку ад рэалізацыі газеты.

---

[57] Канфлікт распачаўся з таго, што ў 2001—2002 гг. Р. Улан спрабаваў зарэгістраваць два новыя выданні — "Новую газету Островца" і "Новую газету Ошмян". Смаргонскі райвыканкам двойчы адмовіўся ўзгадніць размяшчэнне рэдакцый гэтых газет, што зрабіла немагчымым іх рэгістрацыю. У снежні 2001 г. і траўні 2002 г. Гаспадарчы суд Гродзенскай вобл. прызнаў гэтыя адмовы няпраўнымі. Аднак і пасля гэтага райвыканкам не ўзгадніў размяшчэння новых СМІ. У лістападзе 2002 г. райвыканкам ініцыяваў зыск аб спыненні дзейнасці індывідуальнага прадпрымальніка Р. Улана. У якасці абгрунтавання заявы былі названыя парушэнні падаткавага заканадаўства ў 2000 і 2002 гг., два папярэджанні пракуратуры ў 2000 г., а таксама парушэнні заканадаўства аб ахове працы і норм пажарнай бяспекі ў 2002 г.

Да кастрычніка 2003 г. газета памяняла яшчэ двух выдаўцоў і яе выхад быў прыпынены загадам міністра інфармацыі ад *2 кастрычніка*. Прэтэнзіі Міністэрства інфармацыі грунтаваліся на тым, што заснавальнік "Новой газеты Сморгони" павінен заключыць дамову з юрыдычнай асобай, якая мае права займацца выпускам друкаваных выданняў, і ўтварыць рэдакцыю. У снежні Р. Улан спрабаваў абскардзіць загад міністра інфармацыі, але Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў гэты зыск.

Паралельна з гэтымі падзеямі адбываўся судовы працэс па заяве прыватнай прадпрымальніцы са Смаргоні Вольгі Куняўскай, якой Гродзенскі аблвыканкам адмовіў у рэгістрацыі прыватнага унітарнага выдавецтва "Регион-пресс" (меркаванага выдаўца "Новой газеты Сморгони"). *У лютым* 2004 г. справа скончылася ў Вышэйшым гаспадарчым судзе на карысць аблвыканкаму.

• • •

*27 лістапада* Вышэйшы гаспадарчы суд адхіліў зыск рэдакцыі газеты "Салідарнасць" аб прызнанні несапраўдным рашэння Камітэта дзяржкантролю, які ў чэрвені аштрафаваў газету на больш як 4 млн руб. (каля USD 2 000). Газета была аштрафаваная па выніках праверкі, зладжанай Камітэтам дзяржкантролю разам з Міністэрствам інфармацыі, падчас якой былі выяўленыя парушэнні стандарту падачы выдавецкіх звестак.

Суд абмежаваўся "прыватным вызначэннем" на адрас Міністэрства інфармацыі, якое не патрабавала выканання згаданых стандартаў усімі беларускімі выданнямі.

• • •

Самым гучным працэсам года стаў разгляд зыску старшыні Белтэлерадыёкампаніі Ягора Рыбакова да рэдакцыі газеты "Народная воля", журналісткі Марыны Коктыш і былой супрацоўніцы тэлекампаніі Элеаноры Язерскай. Нагодай для канфлікту паслужыла інтэрв'ю "Элеанора Язерская: пяць пудоў любові я гарантую", надрукаванае ў "Народнай волі" ў кастрычніку 2001 г.

*26 верасня* Ленінскі раённы суд г. Мінска пастанавіў спагнаць з рэдакцыі "Народнай волі" на карысць кіраўніка Белдзяржтэлерадыёкампаніі 10 млн руб. (USD 4 750) кампенсацыі за знявагу гонару, годнасці і справавай рэпутацыі, а з М. Коктыш і Э. Язерскай — па 1 млн руб. (USD 475).

*17 лістапада* Мінскі гарадскі суд перагледзеў сумы кампенсацыі маральнай шкоды, авялічыўшы іх для рэдакцыі газеты ў 5 разоў да 50 млн руб. (UDS 23 420), а для іншых двух адказнікаў — у 3 разы да 3 млн руб. (USD 1 405).

На сакавік 2004 г. рашэнне суда не было выкананае, бо рэдакцыя "Народнай волі" падала скаргу ў парадку нагляду.

(13 лютага 2004 г. Я. Рыбакоў быў зняты з пасады старшыні Белтэлерадыёкампаніі і абвінавачаны ў атрыманні хабару. На момант падрыхтоўкі справаздачы Пракуратура Рэспублікі Беларусь вяла следства, і Я. Рыбакоў знаходзіўся пад вартай.)

## Эканамічная палітыка ў галіне СМІ

Паводле арт. 3 Закона аб друку, дзяржава

“*определяет меры, направленные на обеспечение экономической поддержки средств массовой информации*”.

Цягам года палітыка дзяржавы ў эканамічнай сферы заставалася ў прынцыпе нязменнаю. Як і раней, сістэма дяржаўнай эканамічнай падтрымкі СМІ мела дыскрымінацыйны характар у дачыненні прыватных медыяў.

У 2003 г. нацыянальны бюджэт прадугледжваў 61,98 млрд руб. на падтрымку дзяржаўнага сектара СМІ (USD 32,28 млн)[58]. У параўнанні з 2002 г. агульны аб’ём фінансавання вырас на USD 8 млн і ў большай ступені датычыў электронных медыяў (з 26,5 млрд руб. у 2002 г. да 48,3 млрд руб. у 2003 г.). Фінансаванне друкаваных СМІ павялічылася з 10,8 млрд руб. у 2002 г. да 12 млрд руб. у 2003 г. Колькасць перыядычных выданняў, фінансаваных з нацыянальнага бюджэту, у параўнанні з папярэднім годам, скарацілася з 42 да 37[59].

Дзяржава працягвала падтрымліваць стратныя, эканамічна неэфектыўныя праекты. Па выніках 9 месяцаў 2003 г. толькі 16% ад агульнай колькасці мясцовых дзяржаўных газет былі самаакупныя[60]. У 2003 г. працягвала дзейнічаць праграма цэнтралізаванага друку гарадскіх і раённых дзяржаўных газет[61].

*У лістападзе* з’явілася інфармацыя пра магчымае акцыянаванне да 2006 г. дзяржаўных друкарняў. Паводле міністра інфармацыі Уладіміра Русакевіча, акцыянаванне мае закрануць паліграфічны камбінат імя Я. Коласа і друкарню “Чырвоная зорка” (абодва прадпрыемствы знаходзяцца ў г. Мінску), не прадугледжвае перадачы кантрольных пакетаў акцый прадпрыемстваў у прыватную ўласнасць і змяншэння ўплыву дзяржавы на друкарскую вытворчасць, звязаную з выданнем кніг і перыёдыкі[62].

• • •

*Увесну* 2003 г. мелі месца вусныя дырэктывы кіраўніцтва структур “Белсаюздруку”, які займаецца раздробным продажам газет, не спісваць і не адпраўляць на перапрацоўку выданні, якія фінансуюцца з нацыянальнага бюджэту. Вядомыя прынамсі два такія выпадкі — у Мінску і Віцебску.

• • •

Надзвычай шырока практыкавалася прымусовая падпіска на дзяржаўныя выданні. Цягам года з’яўляліся паведамленні пра факты прымусовай падпіскі на газету “Советская Белоруссия”.

*У траўні* Полацкі гарвыканкам разаслаў кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый, якія месцяцца на падведамаснай выканкаму тэрыторыі, ліст з загадам “узяць пад асабісты кантроль ход падпіснай кампаніі” і аднавіць узровень падпіскі на газеты “Советская Бе-

---

[58] Паводле курсу Нацбанка Рэспублікі Беларусь на 2 студзеня 2003 г.

[59] І цэнзура, і “святая хлусня” патыхаюць... безадказнасцю // Звязда. 2003. №278. 5 лістапада.

[60] Мясцовая прэса = “местачковая”? // Звязда. 2003. №296. 26 лістапада.

[61] Пастанова Савету Міністраў №265 “Аб працягу на 2003—2004 гады дзеяння Мерапрыемстваў па падтрымцы цэнтралізаванай сістэмы друку гарадскіх і раённых газет на 1999—2002 гады”. 27 лютага 2003 г.

[62] І цэнзура, і “святая хлусня” патыхаюць... безадказнасцю // Звязда. 2003. №278. 5 лістапада.

лоруссия", "Рэспубліка", "Звязда", "Народная газета", "Знамя юности", "Чырвоная змена", "7 дней", "Народнае слова", "Віцебскі рабочы", "Полацкі веснік", а таксама часопіс "Беларуская думка"[63].

• • •

*На пачатку верасня* ў Крычаўскім раёне Магілёўскай вобласці падчас нарады з дырэктарамі школ райвыканкам абавязаў усіх настаўнікаў раёна падпісацца на "Советскую Белоруссию". У гэтым жа раёне райвыканкам распарадзіўся правесці шырокую рэкламную кампанію свайго друкаванага органа "Ленінскі кліч" і выдаткаваў на яе адпаведныя сродкі, а мясцовая пошта вызначыла паказчыкі падпіскі на "Ленінскі шлях" практычна для кожнага працоўнага калектыву раёна.

• • •

Напрыканцы года інфармацыйнае агенцтва "БелТА" (Унітарнае прадпрыемства Адміністрацыі прэзідэнта) распаўсюдзіла інфармацыю пра тое, што яно атрымала эксклюзіўныя правы на распаўюд на тэрыторыі Беларусі тэлепраграм беларускіх тэлеканалаў[64]. *З 5 студзеня 2004 г.* публікацыя тэлепраграм беларускіх каналаў стала магчымай толькі паводле дамоваў з УП "БелТА".

• • •

У святле ўмацавання манапольнага становішча "Белпошты" трэба разглядаць далучэнне падпіскі на перыядычныя выданні да паслуг паштовай сувязі і ўвядзенне ліцэнзавання на гэтыя паслугі[65].

• • •

Цягам года недзяржаўныя медыі сутыкаліся з адміністрацыйнымі перашкодамі падчас арганізацыі сваіх падпісных і рэкламных кампаній.

Гэтак, *у снежні* Мінскі метрапалітэн парушыў дамову на размяшчэнне рэкламных улётак газеты "Белорусский рынок". У выніку рэклама ў вагонах метро правісела адзін тыдзень замест аплочаных двух, а ў тунэлі паміж станцыямі "Кастрычніцкая" і "Купалаўская" — 6 дзён замест месяца. Тэхнічны аддзел метрапалітэна, адказны за размяшчэнне рэкламы ў метро, адмовіўся растлумачыць прычыны знікнення плакатаў "Белорусского рынка". Намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі Мінгарвыканкаму Уладзімір Зубрык паведаміў, што рашэнне зняць рэкламу ў пераходзе паміж станцыямі прыняла мастацкая рада пры Камітэце архітэктуры і горадабудаўніцтва, якая займаецца распрацоўкай падыходаў да вонкавай рэкламы ў горадзе. На думку чыноўніка, рэклама "Белорусского рынка" не задаволіла раду з "мастацкіх меркаванняў".

---

[63] Ліст №664/1-18 ад 26 траўня 2003 г. за подпісам старшыні Полацкага гарвыканкаму В. С. Тачылы.

[64] Рашэнне калегіі Адміністрацыі прэзідэнта ад 27 кастрычніка 2003 г.

[65] Закон аб паштовай сувязі ад 15 снежня 2003 г., №258-3. Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь. 2004. №2. 2/1007. Палажэнне аб ліцэнзаванні дзейнасці ў галіне сувязі, зацверджанае Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь №1387. 20 кастрычніка 2003 г. Нацыянальны рэестр прававых актраў Рэспублікі Беларусь. №122. 5/13297.

# Высновы

Пры агульнай неканкурэнтаздольнасці дяржаўнага сектару друкаваных СМІ адміністрацыйны ўціск заставаўся адзіным эфектыўным сродкам захаваць дзяржаўную манаполію на інфармацыйным полі. Дзяржава стрымлівала развіццё рынку СМІ, ствараючы няроўныя ўмовы канкурэнцыі, не дазваляючы рэгістраваць новыя выданні, спрабуючы максімальна зменшыць сферу ўплыву недзяржаўных СМІ праз адмовы ў інфармацыі, забароны на друк і распаўсюд газет.

Ціск на незалежныя выданні быў лагічным працягам палітыкі, пачатай у папярэднія гады. Дзеянні ўладаў у дачыненні прыватных медыяў адбываліся на фоне пераследу арганізацый трэцяга сектару і прыватных адукацыйных установаў.

# Спіс медыяў, згаданых у справаздачы

**Алеся**, часопіс
**Arche**, часопіс
**БДГ. Для служебного пользования**, газета
**Белорусская газета**
**Белорусская деловая газета**
**Белорусская нива**, газета
**Белорусский рынок**, газета
**БелТА**, інфармацыйнае агенцтва
**Бярозка**, часопіс
**Вечерний Гомель**, газета
**Вечерний Столин**, газета
**Витебский курьер**, газета
**Віцебскі рабочы**, газета
**Вожык**, часопіс
**Вясёлка**, часопіс
**Газета Слонімская**
**Ганцавіцкі час**, газета
**Голас Пружаны**, газета
**Гомельская праўда**, газета
**Гомельские ведомости**, газета
**2-гі канал**, тэлеканал, г. Магілёў
**День**, газета
**Дзядзька Тарас**, 299 ас.
**Заря**, газета
**Звязда**, газета
**Знамя юности**, газета
**Зорька**, газета
**Зубр**, 299 ас.
**Известия**, газета, Расія
**Intex-press**, газета
**Крычаўлянка**, 299 ас.
**Культура**, тэлеканал, Расія
**Ленінскі кліч**, газета
**Ленінскі сцяг**, газета
**Маладзёжны кур'ер**, 299 ас.
**Местная газета Шаг**
**Местное время**, газета, г. Мінск

**Мясцовы час**, газета, г. Пінск
**Навінкі**, газета
**Народнае слова**, газета
**Народная воля**, газета
**Народная газета**, газета
**Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія** (НДТРК, Белтэлерадыёкампанія)
**Наша доля**, газета
**Наша ніва**, газета
**Новая газета Сморгони**
**Новая газета**, Расія
**Новы час**, газета
**НТВ**, тэлеканал, Расія
**Нясвіжскі час**, газета
**ОНТ**, тэлеканал
**Пагоня**, газета
**Полацкі веснік**, газета
**Предпринимательская газета**
**Провинциалка**, газета
**Рабочы**, газета
**Региональные ведомости**, газета
**Регион-вести**, газета
**РТР**, тэлеканал, Расія
**Рэспубліка**, газета
**7 дней**, газета
**Салідарнасць**, газета
**Светлы шлях**, газета
**Слонімскі веснік**, газета
**SME**, газета, Славакія
**Советская Белоруссия**, газета
**Тэлескоп**, газета
**Эхо**, газета